Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!



# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНАЯ СТУ-
ДЭНЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

1925 г.

Люты—№ 1




Орган Белбюро Пролетарскага
студэнцтва і Цэнтральнага Кі-
раўніцтва зямляцтваў г. Масквы
МЕНСК—1925

# Ад рэдакцыі.

Наша часопісь выходзіць у сьвет у пэрыод, калі ідзе напружная праца рабочай клясы, сялянства і ўсіх лепшых людзей Савецкага Саюзу над экономічным і культурным будаўніцтвам, пад разьвіцьцём і ўзмацненьнем справы соцыялізму.

З поўнай відавочнасьцю разгортваецца гаспадарчы і культурны рост краіны. Мы бачым усё большае ўзмацненьне дыктатуры пролетарыяту, саюзу рабочых і сялян. Мы бачым безпадзельны аўторытэт і ўплыў Комуністычнай Партыі ў шэрагах рабочае клясы. Мы бачым усё нарастаючы культурны рост вёскі, рост яе політычнай актыўнасьці, прыгожы пачатак разьвіцьця вясковай савецкай грамадзкасьці на падставе гаспадарчага росту.

Павольна, але верна мацнее справа рабочай клясы, растуць элемэнты соцыялізму.

Краіна на справе праверыла правідловасць Ленінскай лініі, лініі Комуністычнай Партыі. Асабліва апошні год прайшоў пад знакам урачыстасьці (торжества) гэтае лініі, пад знакам росту і ўзмацненьня.

Мы ведаем, што наперадзе яшчэ шмат труднасьцей і барацьбы. Што-ж? Чым больш труднасьцей, тым больш абагачаюцца шэрагі самаадважных будаўнікоў і барацьбітоў за справу рабочае клясы, за справу ўсіх працоўных і прыгнечаных.

Падаўляючая частка студэнцтва цела ад цела рабочае клясы і працоўнага сялянства нашае краіны. Гэта студэнцтва ня можа ставіць і ня ставіць перад сабою задач нейкай асаблівай працы, якая не зьяўлялася-б неразрыўнай часткай усёй працы Комуністычнай Партыі, кіруючай рабочай клясай і перадавымі элемэнтамі сялянства.

Беларусь—сялянская краіна, гаспадарча пакуль што бедная і неразьвітая, якая перажыла вякі асабліва цяжкага уціску і політычнага і нацыянальнага, культурна-адсталая,—гэта Беларусь напружана працуе, ідучы па шляху да новага укладу жыцьця да соцыялізму, да экономічнага і культурнага росквіту.

Беларусь, якая толькі за апошнія два-тры гады пачала пасылаць лепшых прадстаўнікоў рабоча-сялянскай моладзі і часткова працоўнае інтэлігенцыі на вучобу, чакае у бліжэйшыя гады гэтых працаўнікоў, сьвежых, высока кваліфікаваных усебакова падрыхтаваных адданых справе дыктатуры пролетарыяту, справе саюзу рабочых і сялян.

Праца студэнцтва Беларусі ня можа ісьці ні па якому іншаму шляху, чым той шлях, па якому вядзе Комуністычная Партыя Беларусі, вядзе рабочых і сялян Беларусі. Усякі іншы шлях быў-бы шляхам к адкрытым і замаскіраваным ворагам справы адраджэньня Беларусі.

Наша часопісь ставіць перад сабой задачы ўвязаць працу ўсяго студэнцтва Беларусі з той працай і барацьбой, якую вядуць рабочыя й сяляне Беларусі.

Наша часопісь ставіць задачай прыблізіць чытача да тых задач, якія ставіць і ажыцьцяўляе ў Беларусі Партыя і Савецкая ўлада.

Наша часопісь будзе дапамагаць чытачу рыхтаваць з сябе ня толькі кваліфікаванага спэцыялістага, але й падрыхтаванага палітычнага арганізатара, бліжэйшага удзельніка і памоцніка ў працы і барацьбе Комуністычнай Партыі.

Наша часопісь будзе дапамагаць чытачу вывучваць асаблівасьці экономікі, гісторыі Беларусі, сачыць за важнейшымі падзеямі і зьявамі ў Беларусі.

Наша часопісь дапаможа студэнцтву рыхтаваць з сябе запраўдных праваднікоў пачынак (качал) нацыянальнай політыкі Р. К. П. і Савецкай улады.

Наша часопісь аб'яднае ўсю працу організацый студэнцтва Беларусі, абагульніць іх вопыт, увяжа іх працу з агульнай працай Партыі і Саветаў.

Наша часопісь мысьліць сваю працу толькі на грунце колектыўнай зьлітай працы ў ёй усяго студэнцтва Беларусі. Мы чакаем, што ад нумару да нумару удзел усё большага ліку студэнтаў у нашай часопісі будзе ўзрастаць.

Наша часопісь—чырвоны сьцяг таго студэнцтва, якое вышла з шэрагаў пролетарыяту, сялянскай беднаты і серадняцтва, таго студэнцтва, якое хоча і будзе працаваць над узмацненьнем Беларусі, як часткі Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, над яе экономічным і культурным росквітам.

---

**А. Крыніцкі.**

# Задачы студэнцтва Беларусі.

I.

У 1921 годзе у кастрычніку Ленін казаў: „Або пролетарская організаваная ўлада і перадавыя рабочыя, і невялікая частка перадавых сялян... змогуць організаваць народны рух вакол сябе і тады мы выйдзем пераможнікамі.

Або мы ня зможам гэтага зрабіць і тады вораг... нямінуча нас пераможа.

Дыктатура пролетарыяту ёсьць заўзятая вайна. Пролетарыят перамог ворагаў толькі ў аднэй краіне, але застаецца больш слабым у міжнародным абхваце. Ён павінен усіх рабочых і сялян аб'яднаць вакол сябе ў тэй сьвядомасьці, што вайна не закончана.

...Трэба глядзець на рэчы цьвяроза—„хто каго".

Новая экономічная політыка ёсьць пераходны пэрыод, калі капіталізм і соцыялізм, рабочая кляса, якая вядзе за сабою сялянства,—з аднаго боку і з другога—прадстаўнік прыватнага капіталу нэпман, кулак вядуць заўзятую барацьбу.

Гэта барацьба йдзе па ўсяму фронту: у экономіцы, у політычным і культурным будаўніцтве. Барацьба йдзе няпрыкметна, ў кожным кутку, у кожным глухім раёне, у кожнай невялічкай справе.

Найвялікшай труднасьцю для рабочае клясы і хаўрусьнікаў яе з'яўляецца тое, што барацьба гэта часта затушована, захавана і яе разнастайнасьцю і яе „мірнымі" формамі, і разнакалёрнасьцю экономічных адносінаў пры НЭП'е, і перавражнасьцю сялянскае гаспадаркі, якая абумоўлівае надзвычайную складанасьць і часамі няўстойчвасьць клясавага расслаеньня, і ўмовамі нашай агульнай някультурнасьці і адсталасьці.

Апошні год працы савецкай краіны, працы бяз *Леніна*, даў шмат яскравага матар'ялу. Ён паказаў, як у гэтай барацьбе памалу, але няўхільна брау перамогу соцыялізм, пролетарыят.

Экономіка краіны на працягу году разьвівалася пад знакам росту і ўмацаваньня. Рост сельскае гаспадаркі,—пасяўной плошчы, тэхнічных і рыначных культур, жывёлаводства, рост інтэнсіфікацыі і культурнасьці сельскае гаспадаркі—відочны для ўсіх. Гэтае разьвіцьцё сялянскае гаспадаркі і, значыцца, рынку—асноўны грунт для разьвіцьця соцыялістычнай прамысловасьці, коопэрацыі—асноўных элемэнтаў соцыялізму ў нашай экономіцы.

За год значна вырасла прамысловасьць, у некаторых галінах абагнаўшы пэрспэктыўныя пляны. Усё больш мацнее чыгуначны транспарт. Вырас зварот тавараў, пры адносным росьце коопэрацыі і дзяржаўнай таргоўлі.

Краіна мае цьвёрдую валюту, асноўная ўмова далейшага гаспадарчага росту. Мацнее сыстэма і дробнага крэдыту і банкаў, абхапляючы ўсё ў большай меры розныя галіны гаспадаркі, узмацняючы укараненьня ў іх элемэнтаў плянавасьці і ўвязкі. Абмацнеў і працягвае паступова расьці бюджет краіны.

Ува ўсёй экономіцы, ня гледзячы на шэраг недалікаў, наглядаецца агульны рост яе і ўмацаваньне плянавасьці, увязкі і актыўнага рэгуляваньня ёю.

У агульным мы яскрава бачым рост элемэнтаў соцыялізму.

Ўсё гэта—ва ўмовах неўраджаю гэтага году. Усё гэта—без аніякай дапамогі з боку капіталістычных урадаў, без пазыкаў, бяз значных концэсіяў.

На падставе такога гаспадарчага росту дыктатура пролетарыяту політычна ўзмацнела. Рабочая кляса моцна зьліта з комуністычнай партыяй. 200.000 лепшых рабочых увайшлі ў партыю. У вёсцы вакол партыі згуртоўваюцца ўсё болей шырокія шэрагі блізкіх партыі элемэнтаў, якія актыўна з ёю вядуць працу. Комсамол на вёсцы расьце, вядучы за сабою ўсё большую частку вясковай моладзі. Сялянка, найбольш актыўная і сьвядомая, сялянка—грамадзкая работніца працуе пад кіраўніцтвам партыі ў савеце, коопэратыве, сялянскім комітэце; высоўваньне сялянак—грамадзкіх работніц—новага пласту працоўнай савецкай вёскі—ўсё шырыцца. Вакол партыі, як паказалі апошнія перавыбары Саветаў, згрупаваўся ўжо значны пласт вясковых грамадзкіх працаўнікоў з гушчай бядняцкага і серадняцкага сялянства. Настаўніцтва канчаткова абрала свой шлях; яно ў падаўляючай частцы йдзе за комуністычнай партыяй, у большай частцы ўжо ўцягнулася ў актыўную грамадзкую працу ў вёсцы, выступаючы сумесна з партыяй і бедняком проці кулака. Расьце і мацнее вялікага значаньня праца селькораў, у шэраг якіх ўсё больш падбіраюцца лепшыя людзі вёскі, якія гатовы на справе дапамагаць партыі і савецкай ўладзе.

Поруч з гаспадарчым ростам у вёсцы няўхільна нарастаньне расслаеньня ў сялянстве. Новая экономічная політыка склала спагадныя ўмовы для ўсё большага росту кулацтва ў вёсцы ў розных яго формах—квотніцкага (ростовщического), гандлёўнага, ўсялякага роду скупароў і г. д. Чым далей, тым большая і політычная актыўнасьць гэтага элемэнту на вёсцы, які імкнецца згрупаваць вакол сябе ўсю рэшту разьбітых грамадзкіх груп, якія ў вёсцы захаваліся: асколкі царскага дзяржаўнага апарату, быўшых чыноўнікаў, поліцэйшчыну, белае афіцэрства, усю папоўшчыну і г. д. Перавыбары сельсаветаў яскрава паказалі, якое імкненьне маецца ў гэтых элемэнтаў да ўлады. Тэрар у адносінах да комсамольцаў, дэлэгатак, асабліва селькораў па ўсёй краіне гаворыць яшчэ больш аб політычнай актыўнасьці гэтых людзей.

Кулацтва выступае ў цяперашні час асноўным найбольш небясьпечным элемэнтам, насіцелем капіталізму ў бягучай барацьбе. Кулацтва—закляты вораг дыктатуры пролетарыяту. Іменна яно імкнецца ўнесьці ў вёску недаверра да рабочага, адваяваць серадняка пад сваё кіраўніцтва, расшчапіць рабоча-сялянскі блёк. Іменна кулацтва выступае асноўнай сілаю проці новага элемэнта грамадзкай гаспадаркі, якая цяпер вырастае, супроць коопэрацыі. Яно вядзе з ёй барацьбу, або імкнецца захапіць яе ў свае рукі.

Чым хутчэй і глыбей будзе адбывацца гаспадарчы рост у вёсцы, тым гастрэй будзе гэта барацьба ва ўсіх галінах будаўніцтва. Тым гастрэй будзе станавіцца задача—хто каго.

Галоўнейшая задача нашых дзён—павесьці за пролетарыятам усё, што ёсьць лепшага ў вёсцы, сялянстве, працоўнай інтэлігэнцыі. Дапа-

магчы абмацаваецца новым гаспадарчым формам вёскі, яе агры-культурнаму росту, соцыялістычнаму землебудаўніцтву, коопэрацыі, агульна-культурнаму росту, у барацьбе з усялякай папоўшчынаю. На гэтую працу неабходна ўзьняць усе лепшыя сілы вясковай грамадзкасьці ў цэнтры з Сельскім Саветам.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ва ўсёй краіне пачалася шырокая мобілізацыя ўсіх сілаў на ўмацаваньне пазыцыяў пролетарыяту перш за ўсё на вёсцы.

Пачалося перакіданьне новых сілаў у вёску на помач узрастаючай вясковай савецкай грамадзкасьці. Пад гэтым кутом гледжаньня агульных задач толькі і можна разглядваць задачы студэнцтва беларусі—сялянскай ў пераважнай частцы краіны.

II.

Соцыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі ў большай меры мае перашкоды ў яе асаблівасьцях экономікі і палітычнай гісторыі.

Беларусь ня мае буйнай прамысловасьці, значнай колькасьці прамысловага пролетарыяту, які-б мог зьявіцца мацнейшай організуючай сілаю ў працы, якая перад намі разгортваецца.

Рост сялянскай гаспадаркі Беларусі моцна затрыманы яе нізкім матар'яльным узроўнем, гострым малазямельлем, вельмі дрэннымі глебавымі ўмовамі, адсталасьцю і слабасьцю агрономічнай і землябудаўнічай сеткі. Асноўны грунт соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы, яе культурнага росту—умацаваньне і разьвіцьцё вытворчасьці сельскае гаспадаркі—у Беларусі шмат слабей, чым ва ўсёй краіне.

Малазямельле ў значнай меры абумоўлівае надзвычайна завойстраныя формы ўнутраной барацьбы ў вёсцы паміж больш і менш заможнымі яе часткамі. Аслажняючым момантам зьяўляецца значнае скарачэньне ўсіх пабочных заработкаў па лесараспрацоўках, па меліорацыі, што пагоршвае становішча бедняка.

Параўнаўчая беднасьць беларускай вёскі на працягу вякоў абумоўлівае параўнаўча больш нізкі культурны ўзровень беларускай вёскі.

Цяжкая палітычная гісторыя Беларусі, узмацнёны палітычны, нацыянальны ўціск часоў монархіі,—усё гэта дапамагала ўкараненьню адсталасьці, загнанасьці маласьвядомага беларускага селяніна ў большай меры, чым ва ўсёй краіне.

Праца партыі і Саветаў на Беларусі даюць вялікі матар'ял, які яскрава абмалёўвае ўсе труднасьці ў справе экономічнага і культурнага адраджэньня Беларусі. Комуністычная партыя Беларусі і Саветы натыкаюцца на ніскі жыцьцёвы ўзровень, на крайнюю культурную адсталасьць, на вялізарны недахват людзей, на адсутнасьць даволі падрыхтаваных, вытрыманых працаўнікоў соцыялістычнага будаўніцтва.

Праўда, лепшыя сілы беларускай вёскі ўсё больш уцягваюцца ў працу пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі. Пералом яскрава выяўлены. Актыўнасьць бедняка, лепшай часткі сераднякоў і вясковай інтэлігэнцыі пачынаюць расьці. Сьведкаю гэтаму за апошнія месяцы—зьезд сялянак—грамадзкіх працаўніц, рост комсамолу ў Беларусі, настаўніцкі зьезд, зьезд селькораў Беларусі, які адбыўся некалькі дзён таму назад.

Пры ўсіх труднасьцях БССР ужо йдзе па шляху экономічнага і культурнага пад'ёму. Бяссумненна, што ва ўмовах ніскага гаспадарчага ўзроўню Беларусі, крайняга малазямельля, культурнай адсталасьці *толькі* лінія Комуністычнае Партыі і Савецкае ўлады, *толькі* справядловая нацыянальная політыка СССР могуць забясьпечыць справу экономічнага і куль-

III.

Рабочыя й сяляне Беларусі вылучылі за апошнія гады вялікую частку студэнцтва. У Вышэйшых Навуковых Установых БССР і Масквы вучыцца да 5.000 студэнцтва.

Толькі з шэрагаў гэтага студэнцтва Беларусь зможа атрымаць высока-кваліфікаваных працаўнікоў, якія ўхутчаць, організуюць, падымуць на вышэйшую ступень справу адраджэньня Беларусі. Тых сіл, якія высоўваюцца на гаспадарчую і політычную працу без належнай выстарчаючай падрыхтоўкі з рабоча-сялянскай гушчы, настаўніцтва, тых сіл, якія даюць Савецка-партыйныя школы—мала; патрэбны працаўнікі добра навукова падрыхтаваныя.

У студэнцтва Беларусі, у яго організацыях ня можа быць *іншай* асноўнай лініі працы, *іншых* асноўных мэтаў, чымся тыя, якія зьдзейсьняе КПБ.

Асноўная задача студэнцкіх організацыяў БССР, беларускага зямляцтва студэнтаў у Маскве зводзіцца да таго, каб дапамагаць організацыі тэй часткі студэнцтва Беларусі, якая хоча і будзе працаваць над адраджэньнем гэтае сялянскае краіны.

Важнейшая задача ў тым, каб кожны студэнт рыхтаваўся да працы ня толькі, як кваліфікаваны спэцыялісты, а як дзеяльны політычны працаўнік, організатар рабочых і сялян вакол задач соцыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі.

Задача беларускіх студэнцкіх організацый у тым, каб у пэрыод школьнай вучобы новыя працаўнікі ў поўнай меры пазнаёміліся з прыроднымі асаблівасьцямі, з усёй гісторыяй Беларусі, з усімі экономічнымі ўмовамі Беларусі, асабліва яе вёскі.

Важнейшай задачай організацыі беларускага студэнцтва зьяўляецца вывучэньне роднае мовы, мовы на якой гаворыць падаўляючая частка працоўных Беларусі. Ніякая праца па культурнаму ўздыму ў Беларусі, ніякі правідловы падыход да сялянства немагчымы, калі найбольш кваліфікаваныя працаўнікі, кіраўнікі, организатары, якія прыходзяць з гораду, ня будуць працаваць у вёсцы на мове селяніна. Трэба адкінуць, як зусім не абаснаваныя гутаркі аб тым, што „няма беларускае мовы", што „літаратурная беларуская мова штучная і ня можа прышчапіцца да Беларусі". Зразумела, літаратурная беларуская мова патрабуе вялікай працы над ёю; яна не магла разьвівацца ў пэрыод монархіі. Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьць пачаць працу па адраджэньню культуры Беларусі, яе літаратуры і яе мовы. Адначасова з працай над разьвіцьцём беларускае літаратурнае мовы, зразумела, неабходна весьці вялікую працу па падрыхтоўцы й выданьню агульна-даступнае літаратуры на беларускай мове, даступнай сялянству. Гэтая задача вельмі цяжкая, аб чым кажа адпаведны вопыт з газэт і выданьняў нават РСФСР, якая больш багацейшая БССР у культурных адносінах.

Неабходна студэнцкім організацыям у сваіх шэрагах злучыць тых людзей, якія кахаюць Беларусь, зьвязаны з ёй, хочуць і лічаць сваім абавязкам зьвярнуцца да тых рабочых і да таго сялянства, якія іх выдзелілі на вучобу.

Неабходна ў гэтых організацыях высока падняць краязнаўчую працу, якая падрыхтуе людзей, знаючых прыродазнаўчыя, гістарычныя і іншыя ўмовы Беларусі.

Неабходна ў організацыях студэнцтва Беларусі падрыхтоўваць людзей, у якіх ёсьць *просты адказ на пытаньне—„хто каго" павінен перамагчы.*

Неабходна ў шэрагах нашых студэнцкіх організацый зшчыльніць, злучыць аднолькавым разуменьнем задач экономічнага й культурнага адраджэньня Беларусі, іменна тых людзей, якія разумеюць, што „вайна ня скончана“, якія на справе пойдуць пад кіраўніцтвам Комуністычнай Партыі.

Савецкая краіна мацнее і расьце. Вытрымана пераможна шмат пазбаўленьняў, праароблена вялікая творчая праца, але барацьба ня скончана. Барацьба перайшла ў іншыя больш складаныя формы, патрабуючыя непараўнавальна большага ўменьня, падрыхтоўкі, усебаковага разьвіцьця. Барацьба патрабуе поўнай адданасьці справе рабочай клясы, без якой нельга павесьці сялянства да новай культуры, да новага ўкладу. Барацьба патрабуе такой політычнай вышкаленнасьці, без якой правільная лінія соцыяльнага будаўніцтва будзе зьбіта ўціскам дробна-буржуазных і буржуазных сіл.

Рыхтавацца да творчае працы над узмацненьнем справы рабочай клясы, да барацьбы за яго далейшыя перамогі, за узмацненьне саюзу рабочых і сялян, за рост уплыву рабочае клясы на бядняцкае і серадняцкае сялянства—вось асноўная задача студэнцтва Беларусі.

# ПОЛІТЫКА І ЭКОНОМІКА.

А. Чарвякоў.

## Шостая гадавіна Савецкай Беларусі.

### 1. Утварэньне Савецкай Беларусі.

Беларусь была расшчэплена Заходнім фронтам на дзьве часткі. Нявыносна цяжкая окупацыя немцаў, якія захапілі ў пачатку 1918 г. вагромную частку краіны Беларусі, адарвала Беларусь ад непасрэднага удзелу ў жыцьці Расійскай Савецкай Рэспублікі.

Агульнае становішча Беларусі гэтага часу сучасьнік абмалёўвае так: „Ніколі ў гісторыі Беларусі ня было такога трагічнага моманту."

Беларусь стаяла перад апаскаю разьдзелу на часткі паміж тымі рэспублікамі, якія толькі што нарадзіліся.

„Мы стаім перад фактам магчымага далучэньня Беларусі да монархічнай Польшчы,—чытаем мы ў той-жа крыніцы,—а, значыць, і поўнага зьнішчэньня тых заваёў Рэволюцыі, якія мы маем цяпер. Рэспублікі, якія толькі што нарадзіліся—Украіна Скарападзкага і Тарыбоўская Літва—таксама заявілі прэтэнзіі на асобныя часткі Беларусі."

Беларуская інтэлігэнцыя і грамадзкасьць розных адценьняў—нацыяналістычная, русафільская, паланафільская—страцілі веру ў свае сілы і ў сілы таго народу, інтарэсы якога яны нібыта баранілі.

„Мы ня верым—гаворыцца ў адозьве Беларускага Абласного Комітэту пры Усерасійскім Савеце Сялянскіх Дэпутатаў,—што у цяперашні час шляхам грамадзянскай вайны і разбурэньня дзяржаўнасьці, без належнай падрыхтоўкі народных гушчаў і без неабходнага грамадзка-экономічнага разьвіцьця народаў Расіі і нават Эўропы можна зьдзейсьніць социялізм."

Усе патугі беларускіх нацыяналістычных элемэнтаў вырашыць лёс беларусі адбівалі ў сабе недаверра на працоўныя гушчы і былі напраўлены такім чынам супроць рабочых і сялян, супроць тэй організацыйнай формы дзяржаўнасьці рабоча-сялянскай Рэспублікі—Саветаў, якая ўжо мела пад сабою поўны, сталы грунт і зьяўлялася законнаю формаю.

Адказ быў дадзены самім народам. самімі рабочымі і сялянамі Беларусі. Яны ва ўмовах нямецкай окупацыі ўзялі свой лёс у свае рукі.

Ва ўмовах нямецкай окупацыі яны пачалі ўтвараць Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў, як ворганы змаганьня супроць окупацый, як ворганы абароны Рэволюцыі, як ворганы збавеньня Беларусі (1918 г., Вільня, Горадня, Беласток, Менск).

У змаганьні і муках радзіліся Саветы Белаурсі. Але гэта быў адзіны шлях ратунку.

Сьвядомасьць таго, што толькі сваёй уласнаю рукою можна каваць сваю долю, распаўсюджылася па самых глухіх кутках беларускае вёскі і гораду.

„У гэтай тытанічнай барацьбе за свабоду павінны прыняць удзел і мы, беларусы. Наш працоўны народ, да гэтага часу цёмны, загнаны і пад'ярэмны вол польскіх і літоўскіх каралёў, і маскоўскіх цароў, цяпер, каб стаць свабодным, павінен як адзін чалавек стаць на абарону Рэволюцыі, на абарону Расійскай Соцыялістычнай Фэдаратыўнай Рэспублікі, на абарону Соцыялізму—афармляе гэта ўжо акрэсьленая сьвядомасьць рабоча-сялянскіх гушчаў адозва першай конфэрэнцыі беларускіх сэкцый РКП (б), якая адбылася у лістападзе 1918 г.

Нараджэньне Савецкай Беларусі азначала сабою тое, што з гэтага часу адпаведнасьць за свой лёс, а таксама за лёс Рэволюцыі наагул бяруць на сябе самі працоўныя, рабочыя і сяляне Беларусі.

„Разбурваючы цьвярдыню страшнага ўціску—гаворыцца ў Маніфэсьце першага часовага Ураду Беларускай Соц. Сав. Рэспублікі,—высушыўшая мора сьлёз і рэкі крыві, якія паразьліваны на шырокіх прасторах гаротнай Беларусі, разбуранай страшэннай вайною, якая пачата царамі і багачамі дзеля сваіх інтарэсаў і якая згубіла дарэмна мільёны рабочых і сялян,—ідзе да вас у праменьнях сонца з урачыстым гымнам шчасьлівая пара вызваленьня, нясе вам Рэволюцыя ўсеабхватную уладу і панаваньне. Сярод працоўных народаў Расіі, Літвы, Лацьвіі, Украіны і вы, рабочыя і сяляне Беларусі, ад сягоньняшняга дню становіцеся свабоднымі і раўнапраўнымі грамадзянамі свабоднай і незалежнай Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі.“

Організуючай сілаю, якая правільна ацаніла абставіны і пэрспэктывы разьвіцьця Рэволюцыі, была Комуністычная партыя Беларусі, якая, ўзяўшы на сябе кіраўніцтва барацьбою, на сваём першым зьезьдзе ў Лістападзе 1918 г. прыняла пастанову аб утварэньні Беларускай Рэспублікі і аб пабудаваньні, да часу скліканьня Ўсебеларускага Зьезду Саветаў, Часовага Рабоча-Сялянскага Ураду пад старшынством беларускага пролетарскага поэты Цішкі Гартнага (Д. Ф. Жылуновіча).

Першага студзеня 1919 году часовы ўрад урачыста абвясьціў рабочым і сялянам Беларусі і ўсяму сьвету аб утварэньні Беларускай Савецкай Соц. Рэспублікі.

## 2. Кароткі агляд політычнага лёсу Беларусі за шэсьць гадоў.

Маніфэст Часовага Ўраду Савецкай Беларусі заклікаў рабочых і сялян да барацьбы.

Рубам было пастаўлена пытаньне аб сяброх і здрадніках рабочых і сялян. Усе сілы зьбіраліся для адбою ўнутраных і надворных ворагаў Савецкіх Рэспублік.

Каб мець найбольшы посьпех у барацьбе, быў утвораны Саюз Савецкай Беларусі з Савецкаю Літвою.

У лютым—сакавіку 1919 г. Савецкая Беларусь аб'ядналася з Савецкаю Літвою, утварыўшы Літоўска-Беларускую Савецкую Рэспубліку.

Увесь першы пэрыод да жніўня 1919 г. прайшоў у заўзятых бойках з польскімі, літоўскімі, нямецкімі войскамі, якія патрабавалі нязвычайнага напружаньня сіл і сродкаў Савецкай Беларусі.

У жніўні 1919 г. польскімі войскамі быў заняты Менск. Настаў пэрыод доўгай дзевяцёхмесячнай окупацыі Беларусі польскімі войскамі.

Барацьба цягнулася.

Чырвоныя войскі Заходняга Фронту рыхтаваліся да рашучай схваткі з войскамі міжнароднага капіталу, войскамі імпэрыялістычнай Польшчы.

Рабочыя і сяляне окупаванай Беларусі у гэты-ж час вялі барацьбу ўнутры Польшчы, падрыхтоўваючы наступ Чырвонае Арміі і прыбліжаючы сваё вызваленьне ад зьненавіднае окупацыі, якая паўводзіла тут самыя горшыя часы прыгоншчыны і нацыяналістычнае зьненавідзі.

У гэты час у красавіку 1920 г. па Маскоўскаму дагавору аб згодзе частка Беларускіх тэрыторый, якія знаходзіліся пад Польскаю окупацыяй (Горадзенская, частка Віленшчыны) адышлі да буржуазнай Літвы.

Ліпень 1920 г. прынёс вызваленьне Беларусі.

Магутным парываньнем Чырвонае Арміі польскія легіёны, якія з'организаваліся на грошы францускіх, ангельскіх, амэрыканскіх банкіраў і ўрадаў, былі перавернуты.

Уся Беларусь атрымала магчымасьць аб'яднацца пад штандарамі Савецкай Беларусі, якая ў мэтах замацаваньня заваёў Чырвонае Арміі, паглыбленьня рэволюцыйных настрояў сярод рабочых і сялян вызваляемай Беларусі, організацыі рабоча сялянскага апарату на мясцох вылучыла Часовы Ваенна-Рэвалюцыйны Комітэт, які аб'яднаў у сваім складзе ўсе рэволюцыйныя організаваныя сілы краіны.

У склад Ваенна-Рэволюцыйнага Комітэту увайшлі ад Комуністычнае Партыі Беларусі—Чарвякоў, Адамовіч і Кнорын, ад Беларускіх Комуністычных організацый—Ігнатоўскі, ад бунда—т. Вайнштэйн.

Нацыяналістычныя здрадніцкія элемэнты і цяпер выявілі сваю здрадніцкую натуру. Беларускія соц.-рэволюцыянэры, ня гледзячы на тое, што да таго часу яны вялі праз сваіх лідэраў—Бадунову, Маркевіча, Трафімава і інш., перагаворы аб удзеле ў Ваенна-Рэволюцыйным Комітэце, у апошнюю хвіліну вышлі зусім, стаўшы ў баку ворагаў рабочых і сялян.

## 3. Дасягненьні Савецкай Беларусі за пэрыод мірнага будаўніцтва 1920—1925 г.

Толькі 4 гады прайшло з таго часу, як Савецкая Беларусь атрымамала магчымасьць накіраваць усе свае сілы для мірнага будаўніцтва. Але гэтыя 4 гады даюць ужо значныя вынікі. Сялянства Беларусі, у большасьці сваёй малазямельнае, атрымала да 80% панскіх зямель, на якіх будуе сваю гаспадарку. Разбураная у часе вайны сялянская гаспадарка паступова пачынае ўзрастаць і будавацца. Пасяўная плошча даведзена да размераў мірнага часу. Паступова павялічваецца жывы і мёртвы інвэнтар, які за гэтыя гады значна вырас і павялічыўся. Прыкмячаецца значная цяга да разьвядзеньня культурных расьлін і павялічэньня колькасьці і якасьці жывёлы, што павялічвае бюджэт сяляніна і паляпшае яго матар'яльнае становішча. Вёска паступова перабудоўваецца, пры чым новыя будынкі ў значнай ступені напамінаюць гарадзкія дамы.

Прыкметны значныя посьпехі і ў падняцьці прамысловасьці. Амаль усе фабрыкі і заводы былі разбураны за час вайны. Цяпер у Беларусі адбудаваны і з посьпехам працуюць дрэва-апрацоўчыя, шкляныя, гарбарныя, сырніковыя і інш. заводы. Становішча рабочых, якія працуюць на прадпрыемствах, паступова паляпшаецца. Рабочыя праз профсаюзы прымаюць актыўны ўдзел у організацыі прамысловасьці. Рабочыя і сяляне праз Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў самі куюць сваю долю і кіруюць дзяржаваю.

Асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе посьпехі Беларусі ў галіне народнае асьветы. За кароткі пэрыод Савецкая Беларусь змагла у амаль зусім разбуранай краіне даць школы гораду і вёсцы дзе абслугоўваецца да 50% дзяцей школьнага ўзросту. Цэлая сетка профэсыянальна-тэхнічных школ упаўне здавальняе запатрабаваньні тэхнічнае асьветы. Па-

будавана 4 вышэйшых школы: Унівэрсытэт, 2 Сельска-гаспадарчыя Інстытуты і Інстытут Вэтэрынарыі. Гэтыя факты гавораць самі за сябе.

Надзвычайнае значэньне культурнае і палітычнае мае нацыяльная палітыка Савецкай улады на Беларусі.

Абвясьціўшы з першых дзён свайго існаваньня аднолькавае права ўсіх народаў Савецкай Беларусі на свабоднае разьвіцьцё, Савецкая ўлада Беларусі цьвёрдай рукой пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі зьдзейсьняе нацыянальную палітыку з аднолькавай увагаю да ўсіх мясцовых нацыянальнасьцяў.

Беларуская, жыдоўская, польская і маскоўская мова абвешчаны ў Беларусі раўнапраўнымі дзяржаўнымі мовамі. Ніякіх уціскаў у гэтых адносінах не дапушчаецца. У гэтыя-ж самыя часы прымаюцца ўсе меры да таго, каб дапамагчы слабейшым нацыянальнасьцям у іх разьвіцьці.

Так, кіруемыя інтарэсамі барацьбы, задачамі вызваленьня працоўных ад прыгону эксплёататараў, рабочыя і сяляне Беларусі з вагромным запалам вядуць тую працу, якую яны пачалі 6 год таму назад, агаласіўшы незалежную Савецкую Социялістычную Беларускую Рэспубліку

## 4. Заходняя Беларусь.

Дасягненьні Савецкай Беларусі асабліва яскрава вылучаюцца на сумным фоне мук і ўціску, у якіх жыве Заходняя Беларусь.

Польскія паны пасьля адыходу Заходняй Беларусі да Польшчы аднавілі сваю зямельную ўласнасьць, заставіўшы нездаволенымі малазямельных і беззямельных сялян.

Апрача гэтага ўжыты ўсе магчымасьці да таго, каб абязмоцніць сялянства, а найбольш рэволюцыйныя элемэнты выжыць з Заходняй Беларусі. З гэтай мэтаю польская ўлада пазбавіла каля 200.000 жыхароў Заходняй Беларусі права польскага грамадзянства.

Зямля уцекачоў сялян, якія не пасьпелі зьвярнуцца ў Польшчу да красавіка 1921 г.—конфіскавана і ўвашла ў Дзяржаўны фонд.

Каб узмацніць польскі нацыяналістычны белагвардзейскі элемэнт Заходняй Беларусі, польская ўлада пасадзіла на былых сялянскія, цяпер конфіскаваныя, землі да 30.000 польскіх колёністых, былых польскіх афіцэраў, унтэр-афіцэраў і інш. „спадзейныя элемэнты". У дзяржаўным жыцьці Польшчы беларускае насельніцтва не карыстаецца правамі палякоў, як на выбарах, так роўна і ў сэнсе карыстаньня роднаю моваю і інш.

Праводзіцца усё гэта ў жыцьцё сілаю кулака і гвалтаў.

Узмацнёныя штаты польскай жандармэрыі вайсковых часьцей стаяць на варце палітыкі Польскае ўлады.

Заходняя Беларусь—краіна окупаваная, дзе ўлада адносіцца да жыхарства, як да ворагаў. З вялікай нянавісьцю глядзяць рабочыя й сяляне Заходняй Беларусі на сваіх удушыцеляў і вядуць супроць іх упартую барацьбу.

Заходняя Беларусь у сучасны момант перажывае пэрыод упартай грамадзянскай барацьбы.

Мы ў Савецкай Беларусі будуем сваю гаспадарку, разьвіваем культуру, зьбіраем сілы для далейшай барацьбы. У Заходняй Беларусі йдзе барацьба рабочых і сялян пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі за вызваленьне.

Галоўныя лёзунгі, вакол якіх яднаюцца рэволюцыйныя сілы Заходняй Беларусі

**Няхай жыве рэволюцыя ў Польшчы.**
**Няхай жыве Савецкая Беларусь.**
**Няхай жыве аб'яднаньне Заходняй Беларусі з Савецкаю Беларусьсю.**

Уваходзячы ў сёмы год існаваньня Савецкай Беларусі рабочыя і сяляне гэтай гаротнай краіны схіляюць галовы ў чэсьць рабочых і сялян, якія загінулі на крывавай ніве ў барацьбе за лепшае будучае.

Барацьба мела многа прыкладаў гэройства і адвагі.

Сягоньня мы пяём песьню славы ўсім гэроям, барацьбітом за вызваленьне, лаўравы вянок кладзем на галовы пераможнікаў.

Былі ў процэсе барацьбы выпадкі здрадніцтва, духоўнай слабасьці і нерашучасьці.

Усім здраднікам мы шлем свае пракляцьці і вечную пагарду. Усім слабым і тым, якія хістаюцца, мы гатовы падаць руку, патрабуючы толькі бязумоўнага злучэньня з рабочымі і сялянскімі гушчамі ў агульнай барацьбе супроць старога сьвету.

Рабочыя і сяляне ўпэўнены, што іх зьмена давядзе да канца пачатую справу—вызваленьне працоўных.

---

**В. Нодаль.**

# Да ацэнкі міжнароднага становішча.

Спроба згрупаваць усе факты міжнароднай палітыкі павінна прывесьці нас да намячэньня трох асноўных груп пытаньняў, якія цікавяць зараз увесь сьвет і якія бясумненна прадстаўляюць інтарэс і для працоўных Савецкага Саюзу.

Пытаньні гэтыя наступныя:

1. Заканчваецца паласа прызнаньняў Савецкага Саюзу (прызнаньне Францыяй, Японіяй, падрыхтоўка прызнаньня Злучанымі Штатамі Амэрыкі).

2. Спробы ушчыльніць буржуазныя гаспадарствы, як за дапамогай узмацненьня фашысткай дзейнасьці—(Францыя Нямеччына), таксама шляхам канчатковай ліквідацыі астачаў меньшавіцкіх і паўменьшавіцкіх урадаў (адстаўка Прускага габінэту, адыход Брантынга ў Швецыі, размовы аб адыходзе Эрыё).

3. Узрост антыбальшавіцкіх настрояў, спроба збудаваць антыбальшавіцкі фронт і міжнароднае заканадаўства супроць бальшавікоў.

На першы погляд можа паказацца, што паміж гэтымі трыма групамі зьяваў ёсьць значныя супярэчнасьці. На самай справе яны зьяўляюцца паказальнікамі хісткасьці капіталістычнага вобчаства, конкурэнцыей, якая ўвесь час узмацняецца і ўзаемнай барацьбой паміж аддзельнымі гаспадарствамі.

**„Буржуазія ўжо ня ў сілах скінуць пролетарыят „со счетов“. Пролетарыят яшчэ ня ў сілах скінуць буржуазію“** (*Сталін*). Іменна затым буржуазія прымушана ад аднэй крайнасьці ў галіне палітыкі кідацца ў другую, замяняць часам абходны рух на лабавую атаку і, наадварот, ісьці на цэлы шэраг компромісаў, стараючыся ўзмацніць сваё становішча, як прызнаньнем Савецкага Саюзу, так і ўзмацненьнем барацьбы з бальшавізмам.

Прызнаньні нас Францыяй і Японіяй па сутнасьці перасьледвалі адну й тую-ж мэту. Францыя шукае сабе саюзьнікаў дзеля будучай барацьбы з Нямеччынай, Японія—дзеля барацьбы з Амэрыкай за панаваньне на Ціхім акіяне. І адна і другая старонка прабуюць знайсьці такога саюзьніка ў асобе Савецкага Саюзу.

Размовы аб прызнаньні Савецкага Саюзу Злучанымі Штатамі Амэрыкі ў значнай меры таксама выкліканы падрыхтоўкай да будучых войнаў на Ціхім акіяне. Амэрыканская буржуазія, якая цьвяроза цэніць становішча, думае зрабіць з намі дагавор, а з гэтым самым нэйтралізаваць Савецкі Саюз у магчымых ваенных стыках у будучыне.

З другога боку ўсясьветная буржуазія спадзяецца з прызнаньнем, хаця на некаторы час, паменьшыць узрастаючы экономічны крызіс шляхам уключэньня СССР у сфэру уплыву ўсясьветнага капіталу. У некаторых ёсьць надзеі, што прызнаньне павінна аслабіць бальшавіцкую агітацыю ў колёніях і мэтрополіі.

Спробы ўзмацненьня позыцыі буржуазіі і, аднačасова, кампанія супроць усясьветнага бальшавізму, у значным стопні выкліканы становішчам у колёніях і колёніяльных краінах.

Падзеі ў Азыі, пераварот ў Кітае, узмацненьне рэволюцыйнага руху ў Індыі, Эгіпэцкія падзеі, паўстаньні ў Мароко—усе гэта ставіць перад эўропэйскай буржуазіяй у вельмі сур'езнай форме пытаньне аб магчымасьці захаваньня позыцый эўропэйскай буржуазіі ў колёніях.

„Матэн“ нядаўна пісаў:

„Бальшавік знайшоў у Азыі, у асаблівасьці-ж у Індыі і Кітаю, дасканальную глебу дзеля прапаганды“.

„Пагроза складаецца з таго, што падобная прапаганда знаходзіць запраўдны водгук у душы інтэлігэнтаў, студэнтаў і, нават, у шырокіх народных масах“...

„Безкарысна дабаўляць, што ўсе чужаземныя колёніі фатальным чынам будуць зачэплены гэтым“.

З берагоў Тэмзы „Матэну“ адказвае „Таймс“:

„У ва ўсёй Азыі комуністычная прапаганда... разьвіваецца. Бальшавізм пагражае затапіць Кітай, дае сябе ведаць... у мусульманскіх старонках Паўночнай Афрыцы“.

Затым орган ангельскай буржуазіі прапануе **пачаць „усім цывілізаваным гаспадарствам барацьбу з Комінтэрнам, які пагражае ў аднолькавым стопні ўсім нацыям і супроць якога нацыя мае сьвяты абавязак абараняцца“.**

Ня толькі пішуць аб антыбальшавіцкім фронце, але яго пробуюць утвараць, карыстаючыся ўсялякімі шляхамі. Толькі на гэтых днёх закончылася ў Гельсінгфорсе конфэрэнцыя прыбалтыцкіх гаспадарстваў (Польшча, Эстонія, Латвія, Фінляндыя). У асяродку увагі гэтай конфэрэнцыі было пытаньне аб утварэньні Прыбалтыцкай Антанты, ваеннага саюзу прыбалтыцкіх гаспадарстваў, накіраваных супроць Савецкага Саюзу.

Па колькі можна судзіць па газэтным матар'ялам гэтыя спробы ня мелі жаданых посьпехаў. **Інтарэсы паасобных прыбалтыцкіх гаспадарстваў у адносінах да СССР не аднолькавы. Гэта й прывяло да частковага правалу конфэрэнцыі.**

Але гэта ня значыць, зразумела, што гэтыя спробы ня будуць паўтарацца. Наадварот, можна з поўнай упэўненнасьцью дапусьціць, што **гэтыя спробы будуць паўтарацца ня раз, прычым, чым далей, тым усё больш будуць яны настойлівымі, пры чым ня выключаецца магчымасьць таго, што разам з падобнымі спробамі будуць мацнець экономічныя зносіны паміж СССР і паасобнымі капіталістычнымі гаспадарствамі.**

І тут, як і ва ўсіх другіх пытаньнях міжнароднай політыкі, выяўляцца супярэчнасьці інтарэсаў паасобных капіталістычных гаспадарстваў і груп гаспадарстваў. На глебе ўзросту гэтых працівалегласьцяў узьнікае цэлы шэраг новых аб'яднаньняў паміж гаспадарствамі. Старую Антанту (Ангельшчына, Францыя, Італія, Бельгія) можна лічыць канчаткова ліквідаванай. Яе месца заняў англа-амэрыканскі саюз, якому ў якасьці своеобразнай колёніі, праўдзівей філіалу, сілком далучана Нямеччына (па пляну Даўэса). І ў гэтым саюзе, які зьяўляецца самым магутным з тых, якія калі-небудзь існавалі, таксама няма поўнага адзінства. Інтарэсы Амэрыкі й Ангельшчыны далёка ня супадаюць. Англія пайшла на павадку ў Амэрыкі выключна з боязьні згубіць колёніі, у першую чаргу, Канаду і Аўстралію, якія асабліва настайвалі на утварэньні англа-амэрыканскага блёку.

Пытаньне аб колёніях сеньня—гэта перш за ўсе, пытаньне аб іх экономічнай незалежнасьці, аб экономічным вызваленьні з-пад улады мэтрополіі.

Да вайны колёніі для Эўропы адыгравалі ролю крыніц сыр'я й былі месцам збыту гатовых вырабаў за дарагія цэны. За гады вайны шмат што зьмянілася. У цэлым шэрагу галін народнае гаспадаркі колёніі сталі самастойнымі, а ёсьць месцы, дзе нават пачалі конкурыраваць з мэтрополіяй.

Можа быць самы характэрны прыклад—гэта становішча ўсясьветнай тэкстыльнай прамысловасьці. У той самы час, калі ў Эўропе тэкстыльная прамысловасьць перажывае пэрманэнтны крызіс, у Азыі яна знаходзіцца ў паласе росквіту (у Ангельшчыне станкі працуюць усяго 26 гадзін у тыдзень, а ў Кітаі—32. Амэрыка, маючы ў тры разы больш станкоў чымся Азія, ужывае хлапка столькі, колькі й Азія. А Ангельшчына з колькасьцю станкоў у чатыры разы большаю чымся Азія, ужыла хлапка ў два разы менш).

Эўропэйскія тавары для колёній вельмі каштоўны Чым далей, тым большую частку сваіх патрэб яны задавальняюць за кошт узросту ўласнай прамысловасьці. Колёніяльная буржуазія ўважае за лепшае: прыбытак ад апрацоўкі сыр'я застаўляць у сваіх уласных кішэнях, не аддаваць яго ангельцам, француэам і іншым „цывілізаваным" народам. Барацьба колёній супроць мэтраполій пагражае асновам капіталістычнай Эўропы, падрывае магутнасьць буйнейшых эўропэйскіх старонак, тым самым дапамагаючы політычнаму вызваленьню рабочай клясы з пад ідэолёгічнага ўплыву буржуазіі.

Апрача колёніяльнага пытаньня, у асяродку ўвагі Эўропы стаіць пытаньне аб Нямеччыне, аб выкананьні пляну Даўэса, без чаго нямысьліма, па погляду правадыроў эўропэйскае буржуазіі, нормальнае гаспадарчае разьвіцьцё капіталістычных краін Эўропы. Ужо зараз правядзеньне пляну Даўэса сустрэла на сваім шляху вялізарныя перашкоды. Нямеччына зможа плаціць свае даўгі толькі тады, калі павялічыць вываз, прымерна на 9-10 мільярдаў залатых марак. (Усяго яна павінна вывозіць будзе на 14-15 мільярдаў, што складае прыблізна палову ўсяго сусьветнага даваеннага вывазу). Пашырэньне нямецкага вывазу магчыма толькі за кошт скарачэньня вывазу другіх старонак таму, што вольных рынкаў зараз няма. У першую чаргу немцы будуць весьці барацьбу за ангельскія рынкі, як найбольш прыстасованыя да нямецкіх тавараў. Ангельская буржуазія гэта добра разумее. Затым яна й стараецца нямецкія тавары накіраваць у СССР. ым самым, як-бы разьвязваючы дзьве задачы: зьменшэньне конкурэнцыі Нямеччыны на ўсясьветным рынку й перавярненьне СССР ў колёнію (з чым, зразумела, мае сувязь і ліквідаваньне самастойнай політыкі на ўсходзе).

Ня толькі бульварная, але й станавітая прэса буржуазнай Эўропы прабуе ўсур'ез ставіць пытаньне аб пляне Даўеса для СССР. Некаторым групам шэрагаў нямецкай буржуазіі вельмі спадабаецца роля прыказчыкаў сусьветнага капіталу ў адносінах да Савецкага Саюзу. Гэтым часткова й тлумачацца некаторыя пагоршаньні ва ўзаемаадносінах паміж СССР і Нямеччынай, якія адтрымалі свой частковы адбітак у перамаўленьнях наконт савецка-нямецкага гандлёвага дагавору.

Рабочы рух, пасьля некаторага зацішша, зноў пачынае праяўляць усё большую актыўнасьць.

Палявеньне ахапляе нават такія краіны, як Нямеччына. Толькі што закончылася конфэрэнцыя меншасьцяй у Ангельшчыне, якая ахапіла 600.000 рабочых і якая, бяссумненна, зьяўляецца гісторычнай падзеяй першаступеннай вартасьці.

Растуць ува ўсіх краінах комуністычныя партыі. Расьце і ангельская компартыя, якая атрымлівае ўсё больш і больш уплыву на шырокія масы.



Процэс бальшавізацыі Компартыі Захаду праходзіць упаўне нармальна. Троцкістцкія настроі не знайшлі водгуку ў комуністычным руху Заходняе Эўропы.

Процэс распаду соцыял-дэмократыі памалу, але бязупынна йдзе к канцу. Апошнія процэсы ў Нямеччыне (Куціскера, Бармата, Эбэрта) выкрылі ўсю гнілату ўсясьветнага меньшавізму, яго чыста службовыя функцыі ня толькі ў адносінах буржуазнага гаспадарства, але і ў адносінах асобных капіталістаў.

**Рабочая кляса ўсё больш ушчыльняе свае шэрагі вакол Ленінскіх партыяў, рыхтуецца да прадбудучых баёў, якія будуць больш заўзятымі й запатрабуюць больш афяр чымся ўсе баі, якія былі да гэтых часоў.**

**Компартыі ўсё больш становяцца адзінымі кіраўнікамі узрастаючага рэволюцыйнага руху, перабудоўваюць свае шэрагі так, каб у момант прадстаячых баёў аказацца даволі падкаванымі і магчы ўзяць на сябе кіраўніцтва рабочай клясай і яе рэзэрвамі рэволюцыйным сялянствам.**

---

В.

# Закончаны этап.

(*Да падагуленьня Настаўніцкага Зьезду*).

Цяжкі і цярністы быў шлях інтэлігэнцыі Савецкага Саюзу ад буржуазіі да пролетарыяту. „Кастрычнік“ большасьць настаўніцтва сустрэла недаверчыва, значная частка яго выступала проці.

Сабатаж, Усерасійская настаўніцкая забастоўка—гэта вехі ў гісторыі настаўніцкага руху, якія нялёгка забываюцца.

Спроба ўхіліцца ад адказу на цэлы шэраг політычных пытаньняў, весьці працу ў школе незалежачы ад вакольных падзей, закрыцца маскаю аполітычнасьці,—такі быў другі этап, этап пералому, які адчыніў шлях да прызнаньня, а потым і да сумеснай працы з компартыяй на фронце барацьбы з цемраю, адсталасьцю і няпісьменнасьцю.

Усе гэтыя этапы, хоць і ў некалькі мякчэйшай форме, прайшоў і настаўнік Беларусі.

Значны ўплыў зрабіла нямецкая і польская окупацыя. На горкім вопыту панаваньня буржуазіі настаўнік адтрымаў прадметны ўрок буржуазнай дэмократыі. Гэта заставіла настаўніка ўжо па іншаму падыходзіць да Савецкае ўлады, іначай адносіцца да яе экспэрымэнтаў.

Ня меншае значэньне меў факт правядзеньня намі нацыянальнае політыкі, перабудова школы, перавод яе на родную мову. Новыя кадры працаўнікоў уліліся ў настаўніцкую гушчу. З сабою гэтыя працаўнікі прынесьлі рэволюцыйны дух і йнакшыя, чым у старога настаўніка, мэтады працы.

Гэта і прывяло да таго, што політычную эволюцыю настаўнік Беларусі прайшоў хутчэй, чым настаўнік Расіі.

Ужо ў пачатку 1923 г. зьезды працаўнікоў асьветы цьвёрда выяўляюць сваю згоду з політыкай Савецкай улады і компартыі.

Першы зьезд працаўнікоў асьветы пашыранай Беларусі (лета 1924 г.) у сваіх пастановах падкрасьляе, што настаўніцтва з радасьцю бярэ на сябе „ролю агэнта компартыі“.

Але зьезды профэсыянальныя, вузкія па свайму складу. У якасьці дэлегатаў пераважна прымае ўдзел саюзны актыў, тая частка настаўніцтва, якая ўжо далёка высунулася наперад, у значнай частцы будучы ўжо зьвязана з компартыяй і комсамолам.

Усебеларускі настаўніцкі зьезд быў масавым зьездам. Усе дэлегаты з правам рашаючага голасу (397)—гэта былі настаўнікі, якія працуюць зараз у школах. Комуністаў было вельмі мала (менш 10%).

*І ўсё такі, ня гледзячы на гэта, зьезд па сутнасьці быў зьездам комуністычным у поўным сэнсе гэтага слова.* Гэта апраўдалі і выступленьні, і запіскі настаўнікаў, і рэзолюцыі зьезду.

Вясковы і гарадзкі настаўнік спаткаўся на зьезьдзе і абгаварыў усе пытаньні разам з адпаведнейшымі прадстаўнікамі партыі і савецкае ўлады. Настаўнік сьмела ўказваў на тыя памылкі і недахопы, якія дзе-небудзь маюцца і адбываюцца.

Актыўнасьць зьезду была запраўды выключнай. Па кожнаму пытаньню выступала ня менш 15-20 чал. аратараў. А запісвалася ад 10 да 25% усіх дэлегатаў зьезду. Тое, аб чым не пасьпявалі выказаць у словах, гаварылі ў запісках. Часам, у запісках вялася значна больш сур'ёзная размова, чым у выступленьнях.

Прычына зразумелая: настаўнік з самага глухога кутка, які ў першы раз сустрэўся тварам да твару з кіраўніком партыі, стараўся адразу ўсё расказаць і ў першую чаргу аб'ясьніцца начыста з партыяй, выявіць свае адносіны да яе.

Вялізарная „прагнасьць“ да ведаў, да разуменьня здарэньняў, якія адбываюцца, усямернае жаданьне разабрацца ўва ўсіх складаных пытаньнях, адтрымаць адказ на ўсе свае сумненьні—гэта адчувалася ўва ўсёй працы зьезду, як на пленумах, так і ў сэкцыях і камісіях.

## Якія-ж падрахункі зьезду?

1. Настаўніцкі зьезд усяму настаўніцтву сказаў:—няма і ня можа быць настаўніка, які ня вёў-бы грамадзянскай працы. Больш зьезд лічыў неабходным падкрэсьліць, што ў выніку працы зьезду „стала больш, чым ясна, што мы толькі пачалі разгортваць грамадзянскую працу, што мы толькі выконваем невялічкую частку тэй працы, якую патрэбна рабіць“.

2. *Настаўнік цьвёрда й рашуча заявіў, што ў сваёй грамадзянскай працы ён будзе выходзіць з інтарэсаў беднаты, ставячы перад сабой мэтаю дапамагчы партыі зьяднаць і ўмацаваць сувязь рабочай клясы з сялянствам.*

Ня толькі дзеля працы ў Савецкае Беларусі настаўнік зрабіў такія вывады. Сваім закардонным братом зьезд пісаў:

> „Інтарэсы беднаты, якая вядзе барацьбу за сваё вызваленьне, абараняе Комуністычная Партыя Заходняй Беларусі і вы з ёй павінны зьвязаць свой лёс. Ёй вы і павінны дапамагчы організоўваць беднату“.

3. *Зьезд цьвяроза падлічыў, што ня ўсё настаўніцтва канчаткова й беззваротна зьвязала свой лёс з лёсам компартыі.* У сваім лісту да ЦК КПБ зьезд адмячаў:

„Мы ня хочам утайваць ад вас, што ў нашай асярэдзіне ня ўсе яшчэ закончылі сваю йдэолёгічную эволюцыю. Большасьць, і прытым пераважная, моцна з компартыяй, меншасьць, праўда, вельмі маленькая, рэдка дзе прыкметная, яшчэ не зьвяла канцоў з канцамі.

Але зьезд ўсё-ж такі лічыў за сабою права гаварыць ад імя ўсяго настаўніцтва, бо ён упэўнены, што „нават тыя, якія сёньня яшчэ ня зусім з компартыяй, заўтра будуць з ёй“.

На зары расійскага рабочага руху Уладзімір Ільліч пісаў у барацьбе з народнікамі:

> „Калі вы ставіце інтэлігэнцыю наўпроціў пролетарыяту й сялянству, значыць, вы разумееце пад ёй вядомы соцыяльны пласт, групу асоб, якія займаюць такую-ж вызначаную позыцыю, як вызначана соцыяльная позыцыя наёмных рабочых і сялян. Але ў якасьці такога пласту расійская йнтэлігэнцыя зьяўляецца якраз буржуазнай і дробна-буржуазнай інтэлігэнцыяй. Калі-ж вы гаворыце аб тых інтэ-

лігэнтах, якія яшчэ не занялі ніякай вызначанай соцыяльнай позыцыі, альбо выбіты жыцьцём са сваёй нормальнай позыцыі і пераходзяць на бок пролетарыяту, тагды няма чаго ставіць наўпроціў гэту інтэлігэнцыю пролетарыяту".

У тым, аб чым пісаў У. І. Ленін 30 год таму назад, пераканалася настаўніцкая маса на вопыце 7 год рэволюцыі. Пасьля доўгага, часта балючага, шляху настаўніцтва больш „*не аддзяляе сваіх задач ад задач комуністычнай партыі, ад яе вялікай барацьбы за новы сьвет*".

Гэта, зразумела, самая каштоўнае і ўсёабхватнае, што даў зьезд, што прыдае яму такое выключнае значэньне ў вачох рабочых і сялян Беларусі Савецкай і Беларусі закардоннай.

---

# ЛІТАРАТУРА

Міхась Чарот.
*(Маладняк).*

## Беларусь лапцюжная.

*(Поэма).*

1.

Гэй, лапцюжнікі, слухай!..
Наша вёска ня будзе больш плакаць...
Па бруку гораду,
Бач, рухае,
Рухае горда
Лазою падплецены лапаць!..

З балота,
З ракітавай далі,
Акеанам аўсяных ніў,
Мы—Беларусі бяднота—
Сюды прынесены хваляй,
Хваляй сярдзітай, бурлівай..,

Камяніцы былі ў сумоце,
Твар свой наморшчылі шыльды...
Толькі плякат на плоце
Зубы ад радасьці выскаліў:
„Ці запісаўся ты дабравольцам?!“
Плякату разяўлены рот...
— Гэй, лапцюжнікі-хлопцы,
На фро-о-онт!!!

2.

Апавіта журбою вёска,
Што сыны у далёкай краіне...
А на фронце міліёны войска
Ад гарматаў і куляў гіне.

— Ой, ня кукуй, зязюля, ў лесе,
Не сьпявай ты, вецер, ракітай...
Не кажэце дзяўчыне Алесі,
Што жаніх яе ў войску забіты.

— Не кажэце старой матулі,
Што сына больш не пабачыць,
Што сынка да грудзей ня прытуліць...
Хай матуля ад жалю ня пляча.

Хай і вёска аб ім ня сумуе,—
Ён аб ёй не забыў да сьмерці...
— Ой, чаго-ж так гудзе-шальмуе
У чыстым полі паганец-вецер!!!

3.

...Адважна біліся...
За праўду памерці—ня страх,—
Каб над вёскай і горадам віўся
Чырвоны сьцяг.

— Эх, даволі, груган драпежны,
Над краінай лапцюжнай кружыць!..
Дзікай роспачы зьнішчаны межы:
„Ці памерлі—ці вольна жыць!?“

Маладая паўстаўшая сіла
Адным махам пазбудзецца слот...
Сонца з хмар пазірае так міла
На краіну лясоў і балот.

Загуло... Вогнестальлю заляскала...
Песьня вольная стогне віхурай...
Зіхаціць ў зачарованым бляску
Край спрадвеку заплаканы, хмуры...

Мы цяпер прыдабудзем багацьце
Тым, што вечна хадзілі ў лапцёх...
Іх мільёны,—змагу распазнаць я,
Чые, рукі былі ў мазалёх.

Мы цяпер аб краіне шэрай
Сьпеў жыцьця каласіць будзем вершам...
Горад дымны і вёску ў шэрані
Злучыць у адно—вышлі першымі.

Сьпевам-морам
Поле залілося...
Грукат фабрыкаў, рогат іх труб...
Сінь прастору—
Шэпчацца калосьсем —
Вёска з горадам едуць браць шлюб!

— Гэй, лапцюжнікі, слухай!..
Наша вёска ня будзе больш плакаць...
Па бруку гораду,
Бач, рухае,
Рухае горда—
Побач з ботам лазовы лапаць!..

4.

Вечар... На печы кот мyркае,
Лапкаю гладзіць па лапцы...
Бацька стары сядзіць на прымурку
У лахматай авеччай шапцы.

Дыміцца люлька карчагай,
Дрыжыць ад гутаркі рот...
— Не,—кажа бацька,—ня лягу,
Думкі навеяў мне сход.

У задуменьні...
І вокам ня кіне
На асьвечаны комінкам кут...
Думкі бягуць, як праменьні...
Успамінае, як тут
Жыў без каня,
Без кароўкі,
Як хлеб з аўсянай мякіны,
За працай штодня,
Рэзаў пянчанай вяроўкай
І долю кляў матчыну
Тады—як рабіў яшчэ паншчыну,
Як ня меў саматканай сярмягі,
Ня меў і на лапці лазы,
Як сьлязьмі праганяў ён смагу,—
На пана і сеяў, і жаў, і вазіў...

— Прэч, думкі!.. На што аб мінулым!..
Аб сёнешнім думае сходзе...
Той кут, што сьвятло захліпнуў ім,
Вачыма з усьмешкай абводзіць...

— Ня буду, ня буду больш верыць,
Што жыве ўсемагутны бог,—
Я маліўся, а ён і да сьмерьці
Палепшыць жыцьця ня мог!?

З твару спаўзлі маршчыны...
Вытрас люльку, аб ногаць пастукаў...
Успомніў аб комсамольцу сыну,
Што ў лапцёх у горад паблукаў...

5.

А па гораду
Сын яго рухае,
Рухае горда...
Па бруку ботамі: чок-чок!
Ад працы ў мазалёх рука...
А на грудзёх яго—значок
Прыгожа зьзяе:—
Ц. В. К.

І роднай далі подых нейкі,—
Аб вёсцы думак карагод...
Замест у хату йсьці з ячэйкі—
Ідзе з ячэйкі на завод.

Мінуў завод. За марай мара
Лунае аб лясох, палёх..
І сэрцу ня зьлічыць удараў
І ня стрымаць разьбегу ног.

Ідзе у даль, дзе сьпевам гучным
У вёсцы спатыкаў спачын...
Замест электрыкі бліскучай—
Панюхаць хоча дым лучыны.

І толькі змрок і ціша ночы
Укралі шлях да роднай хаты...
Напомнілі, што ён—рабочы,
Што заўтра жджэ яго варстат.

6.

Мне калісьці казала маці,
Што радзіўся і я ў хляве,
Як карову пашла дагледаці...
Ой, ды ліха-ж маёй галаве!

Як радзіўся, дык мне напісалі:
Жыць на вёсцы і быць пастухом,
Вандраваці са статкам лясамі,
Баяць байкі балотам ды мхом.

І было мне ня болей восем,—
Пастухом быў, авечкі я пасьвіў,
Помню, помню сьлязьлівую восень,
Як у лапцях дрыжаў ня раз.

Калі-ж толькі мінула дванаццаць,
Гаспадар я—ну проста аж сьмех!..
Дзень цалюткі у полі за працай,
Вечар прыдзе—гайда на начлег!..

Пад дажджом, у дзіравай браварцы,
Каля вогнішча седзячы сьпіш,
Або ноч на чарговай варце
Сьвістам будзіш ваколіцы цішу.

Шмат разоў я калісь на начлезе,
Прызнавацца сягоньня ня лоўка,
Нібы бачу: лясун з дрэва лезе,
Жарабё мне здавалася воўкам.

Тады бег я спалоханым зайцам,
Бег, валяўся на роснай траве...
Так прышлося вось мне гадавацца,
Мо' затым, што радзіўся ў хляве.

Мо' затым і цярпеў я сьцюжы,
Быў галодным і ночы ня спаў,
Што я сын Беларусі лапцюжнай,
Аб якой пройдзе громкая слава.

Аб якой ні сягоньня дык заўтра
Згіне ворагаў злосных грызьня...
. . . . . . . . . . . . . . .
Эх, ды лепей ня варта
Пра мінулыя дні ўспамінаць...

7.

Ґэй-жа-гэй!.. Зашумі, сасоньнік,
Засьвішчэце, віхуры, у полі,
Каб пачуў я у горадзе сёньня
Песьню вёскі аб знойдзенай долі.

Каб пачуу, як жыве і можа
Стары бацька сівенькі лунь,
Ці пабольшала сена і збожжа
У струхнелай, пакрыўленай пуні...

Ня чуваць сіняй далі адказу,
Мо' дзе блукае песьня ў палёх...
Каб, здаецца, узьняцца адразу—
Праляцець над палямі я мог.

Паглядзець на лясы, сенажаці,
Падзівіцца на родны той кут,
Дзе ў калысцы нябожчыца маці
Напявала мне песьні пакуты...

Гэй-жа-гэй! Зашумі, сасоньнік,
Засьвішчэце, віхуры, у полі,
Каб пачуў я у горадзе сёньня
Песьню вёскі аб знойдзенай долі.

8.

Вуліцы, завулкі,
Твар белы камяніцы...
Фабрык сьпевам гулкім
Горад весяліцца.

Па бруку ботамі
Чок-чок!
Ідуць настрэчу... Што там ім
Да тых лапцюжных, што далёка?!
Абутыя яны, ці не?!
А мне—

Аб вёсцы кажа кожны зьвяк
Прылад сталёвых, што касы...
Машын раменьні-паясы,
Рабочы—гэта мой зямляк.

І дым трубы—туман над гаем,
Калі прачнецца вёскі рань...
А як кавадлы барабаняць—
Сноп іскраў зоркамі мільгае.

Іду з заводу... Рогат, шум
Знаёмых вуліц...
Усплыў свавольна шэраг дум:
Каго прасторы гмахаў туляць?!

Прыгожа ўбраныя вітрыны,—
Сярдзіта іх акінеш вокам...
Ці помніць горад аб сястры,
Аб вёсцы, што жыве далёка?..

І чую песьню зноў заводу—
Ён будзіць поле, лес, пакосы...
Імгліць, іскрыцца над балотам
Пажоўкла-злотным лісьцем восень.

Ахапкі промняў ткуць у высі
Узор зямлі: СССР...
Аб сонца—ночы змрок разьбіўся,—
Дзень новы прыдзе—маю веру.

9.

Ціха у гаі, ціха...
У пушчы ня выюць зьвяры...
Куды-ж гэта дзелася ліха,
Што сьпевам ня плачуць бары?..

На каліне зязюля кукуе,
Пад калінай сьпіць сын ля мяжы?..
— Пагадаю аб шчасьці сынку я,
Як ён будзе, мілы мой, жыць.

І слухае сказ варажбіткі,
Серп сьціснула моцна ў руку...
А думкі—жыцьцё ткуць, як ніткі,
Пры кожным гучлівым „ку-ку"...

Ня верыць матуля у дзіва:
Яна—дачакалася сьвята...
І казка аб волі—праўдзіва:—
Над ёй не стаіць прыганяты.

А змрок чуць прыляжа ў даліне,
Ды бор пачарнее кудлаты,
За плечмі з калыскай і сынам
Са сьпевам дыбае да хаты.

— Ой ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Цяпер не баляць
Мае ножанькі.

— Ой ў бары, бары
Горы-кручанькі.
Цяпер не баляць
Мае ручанькі.

Дыбае іржэўнікам росным,
Сын сьпіць у калысцы на сене...
На небе шлях млечны, як кросны,
У срэбныя кветкі—дасэні...

А вецер снапы ня кудлачыць,
Цалуе іх лёгкім павеем,
Сынок за плячыма ня плача—
Матуліны слухае сьпевы...

— Ой ў бары, бары
Грае скрыпанька.
Цяпер пройдзе ўсё
Гора-ліханька.

— Ой ў бары, бары
Б'юць цымбалікі.
А жыцьцё цяпер
Нібы баль які...

Куды-ж гэта дзелася ліха,
Што сьпевам ня плачуць бары...
У пушчы ня выюць зьвяры...
Ціха у гаі... ціха...

10.

Дзіўным сьпевам сваім зачаруе
Ускросшая сягоньня Беларусь...
За лапцюжных паўстанцаў чаму я
Ужо не баюся!..

„Вайна—вайне"—
Яны пачулі лёзунг...
Ня прыдзе час, што сьпіны ім сагне,
Як вецер на балоце лозы...
„Вайна—вайне!
Вайна—вайне!"

І гэта бой астатні і напружны,
Рашучы бой: памерці—або жыць ..

. . . . . . . . . . . . . .

— Слова твaё, Беларусь лапцюжная,
Выйдзі і сьмела скажы!

Скажы ня вуснамі здрайцаў,
Што век з цябе строілі кпіны,
Мільёны занятых працяй
Сваё слова сказаць павінны!...

. . . . . . . . . . . . . .

Раць магутная узьнята,
Чуцен высі голас-гоман...
Гэта моладзь—арляняты—
Рлуюць песьню перамогі.

11.

Праходзяць дні. Чакаем перавагі—
Згінуць можна тут што хвілі...
Ня жыць таму, ня мае хто адвагі,
Ня верыць хто ў пабеду сваёй сілы.

І многа вас, наўкола што цікуе,
У грозны час, каб закрываць свой твар...
Лапцюжнай вёскі сын, і вось не уцяку я,—
Адважна стрэчу я ўсіх ворагаў удар.

Мо' ў бойцы згіну я, абліжа вецер косьці
На тэй зямлі, дзе Беларусь ускрэсьне,
Але ня дам тут баляваць тым госьцям,
Што не мае пяюць працоўным песьні.

Мой вольны сьпеў—паўстаўшых будзе
гымнам,
Ім затаплю прастор краіны я...
Сьмялей-жа ў бой!... Я веру—не загіне:
Усё зможа ўраз працоўная сям'я.

Праходзяць дні... Чакаем перавагі,—
Загінуць можна тут што хвілі...
Ня жыць таму, ня мае хто адвагі,
Ня верыць хто ў пабеду сваёй сілы.

12.

Толькі там, дзе семнаццаты ўвосень
Апрануў зямлю чырвоным лістам,
Над лапцюжнікамі сонца ўзнялося,
Толькі там—дзе ўлада комуністых.

Новы край... Замоўклі сьпевы жалю
Пад сьпеў віхур—прайшла чырвоных раць..
І ў мяне, бач, рукі ня дрыжалі
Загад пісаць: „ня наш хто—расстраляць!"

Апошні вораг расстрэлены
Што няволіў лапцюжных мільёны...
— Гэй-жа ў даль! Верым, што
стрэнем мы
Нашых братоў няўзбройных!..

І Беларусь, як вольная між вольных,
Мінулых дзён забудзе цяжкі шлях,
Пакажа ўсім, што здольна
З пагардай утрымаць здабытай волі сьцяг.

Паверыць сьвет, што люд наш працаздольны,
Што сіла творчая ніколі не застыне...
— Дык расквітай лапцюжнікаў, краіна,
О, Беларусь, ты вольная між вольных.

Мой вольны сьпеў не апавіты сумам,
Ім заглушу ўсіх сьпеваў адгалосьсе...
Ня верыць хто ў семнаццатую восень—
Напевам радасным ім веру прынясу я.

Сьпявай, шумлівы гай... Шапчэце завірухай
Нам казку новых дзён, стагоднія лясы...
Бач, уперад сьмела як рухае
Беларусі лапцюжнай сын.
З балота,
З ракітавай далі,
Акеанам аўсяных ніў,
Нясецца
Далей,
Далей
І далей,—

Нясецца
Хваляй,
Хваляй сярдзітай, бурлівай.

13.

Трынаццатай песьняй прарочу
Беларусі лапцюжнай славу...
Беларусь болей слухаць ня хоча
Аб Рагнедзе і Ізяславе.

Не кажу аб дзікунскай навале,
Ні аб царскім і панскім прыгоне...
Беларусь на крутым перавале,—
Нараджаецца вольнай сьгоньня.

З усходу—едзе працы рыцар,
Ён на кані чырвонай масьці...
З заходу белы конь імчыцца...
На Беларусі бой—
Каму з іх запрапасьці?!

І беламу каню надломаны капыты,
Упаў ён на зямлю ... хістаецца яздок...
Лясы і шыр палёў ваякамі пакрыты,
Што шлях кладуць ад Воршы ў Беласток.

Надходзіць час... Заход струхнелы ляжа
Пад капытом чырвонага каня...
Па ўсёй зямлі узор з бліскучай пражы
Ткаць будзе раніца надходзячага дня.

Пакуль-жа бой ідзе; тут праца, там багацьце,
Ты, Беларусь, плывеш праз Рубікон...
Дык мусіш ты, лапцюжная, змагацца,
Законы каб пісаць уласнаю рукой.

Ты мусіш праганяць мінулы цень няволі
З зямлі сваёй, дзе пазбыліся пут...
Ня будзе целам той павызвален ніколі,
Хто морыць дух мінулых дзён атрутай.

Змаганьне-барацьба, адвага і рашучасьць
І духам вольная нібы поэты верш...
Ты, Беларусь, нізіны пройдзеш, кручы
І вір жыцьця свайго—пераплывеш.

Лапцюжная! Рады злучыўшы цесна,
Плыві ты ў даль бурліва-грознай лавай...
Сваёй мужыцкай сьмелай песьняй
Табе прарочу славу!..

Паўстаўшаю магутнай сілай
Старое зьнішчана дазваньня...
У грудзёх адвага і паўстаньне...
Збылося песьні прадгаданьне:
„Хто быў нічым,
Той стане ўсім“.

# КРАЯЗНАЎСТВА

Іл. Барашка.

## Краязнаўчы рух на Беларусі і студэнцтва[1]).

Краязнаўства, зьяўляючыся адным з найгалоўнейшых заданьняў, пастаўленых ва ўсю шырыню Рэволюцыяй Кастрычніка на Беларусі,—шырыцца.

Усебаковае вывучэньне краю, з мэтай рацыянальнага выкарыстаньня тых прыродных багацьцяў, якія маюцца ў Беларусі, з кожным годам ўсё мацнее і мацнее.

Прыкладамі ўзмацненьня краязнаўчага руху зьяўляецца тое, што ў сучасны момант, акрамя дабрахвотных таварыстваў і гурткоў краязнаўства, мы маем цэлы шэраг навуковых інстытуцый, як: Інбелкульт, Музэі, Цэнтрархіў, Камісія па вывучэньню прыродных багацьцяў краю пры Дзяржпляне БССР, тры вышэйшыя школы, з выключна краязнаўчым напрамкам вывучэньня і цэлы шэраг тэхнікумаў, выхоўваючых у сабе мясцовых культурных працаўнікоў.

З мэтай каардынацыі ўсяе краязнаўчае працы на Беларусі, пры Інбелкульце ўтворана ЦБ краязнаўства, якое і стаіць на чале краязнаўчага руху.

У першых лічбах сьнежня г. г. Цэнтральным Бюро Краязнаўства была склікана 1-ая Ўсебеларуская краязнаўчая конфэрэнцыя, якая выявіла ўсе організацыйныя формы і праробленую працу краязнаўчымі організацыямі і ўстановамі.

На вялікі жаль, студэнцтва на гэтай конфэрэнцыі прадстаўлена амаль што ня было, за адсутнасьцю організацый, якія-б мелі пэўныя організацыйныя рамкі.

Гурток краязнаўства пры Менскім С.-Г. Інстытуце, гурток пры Белпэдтэхнікуму, гурток студэнтаў па вывучэньню Гомельшчыны,—усё гэта выпадковыя, працуючыя амаль-што бяз плянавасьці і паступовасьці організацыі.

Між тым, для рацыянальнага выкарыстаньня кіпучага энтузыазму студэнцтва, якое жадае працаваць, але ня мае за што ўхапіцца, ня мае кіруючай організацыі, неабходна, па прыкладу РСФСР і УССР стварыць студэнцкую сэкцыю Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, якая-б мела цесную сувязь з ўжо ўтворанымі і, якія будуць заложаны краязнаўчымі студэнцкімі гурткамі (тут я разумею ўсе краязнаўчыя гурткі ВУЗ'аў, Рабфакаў і Тэхнікумаў).

---

[1]) Рэдакцыя запрашае студэнтаў падзяліцца думкамі аб закранутых у артыкуле пытаньнях.

У чым-жа павінна будзе выяўляцца праца студэнцтва, організаванага праз краязнаўчыя гурткі у студэнцкую сэкцыю ЦБ Краязнаўства і што будзе рабіць студэнцкая сэкцыя?

Перш чым адказаць на гэта, трэба сказаць адно: студэнт, зацікаўлены краязнаўствам, гэта аматар-краязнаўца бяз „дыплёму", які маніцца і імкнецца стаць сталым дасьледчыкам краю. Таму ў краязнаўчых гуртках трэба, апрача дасьледчай працы, весьці і працу самаадукацыйную.

Студэнцкая сэкцыя Цэнтральнага Бюро Краязнаўства павінна быць цэнтрам краязнаўчае працы ўсяго студэнцтва.

Моральная дапамога студэнцкім провінцыяльным гуртком, кіраваньне іх працай, удзел у працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, удзел у краязнаўчых зьездах, заслуханьне дакладаў уводнага (організацыйна-мэтодычнага) характару, апрацоўка дакладаў па краязнаўству ў адпаведных сэмінарыях, альбо пры практычных занятках, удзел у складаньні бібліографіі па краязнаўству, здабыцьце для краязнаўчых гурткоў адпаведнай краязнаўчай літаратуры, коордынацыя сталай дасьледчай працы студэнтаў, аб'яднаных у краязнаўчыя гурткі і нават рэдагаваньне краязнаўчага аддзелу ў студэнцкай часопісі[1]) „Чырвоны сьцяг", у якім (аддзеле) павінны будуць друкавацца дасьледчыя працы студэнтаў,— вось тыя, далека няпоўныя, напрамкі працы студэнцкай сэкцыі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

Стварэньне ў бліжэйшыя часы такой краязнаўчай організацыі, якая-б будзіла творчы напрамак дзейнасьці студэнтаў-краяведаў, ёсьць неабходная прадпасылка да ўпэўненасьці ў пашырэньні краязнаўчага руху, які ўсе болей і болей разгортваецца ў нас на Беларусі.

Мы, студэнты, павінны самі такую організацыю стварыць; яна прынясе шмат карысьці для нашай маладой Рэспублікі, якая нікім яшчэ грунтоўна не дасьледавана.

Мы ведаем, што шмат нам, студэнтам, прыдзецца патраціць энэргіі, многа пройдзе дзесяткаў год, пакуль мы ўсебакова дасьледуем нашую зямельку, на якой мы знаходзімся, на якой мы расьлі і ўзгадоўваліся, але няўхільна, крок за крокам, аддаючы нашу кіпучую энэргію для гэтай карыснай для Рэспублікі працы, мы павінны памятаць, што гэта наш грамадзянскі абавязак.

Больш энэргіі і за працу!

---

[1]) Рэдакцыя з вялікаю ахвотаю дасьць свае старонкі для Краязнаўчага матар'ялу.

Іл. Барашка.

# Па матар'ялам 1-ай Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.

*(Падагуленьні дакладаў і рэзолюцый).*

З 29 лістапада па 1 сьнежня 1924 г. у Менску адбывалася Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя, скліканая ў пяршыню Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры.

Уся праца конфэрэнцыі зводзілася да выяўленьня організацыйных формаў краязнаўчых організацый, праробленай імі працы і намечаньня шляхоў далейшага разьвіцьця краязнаўства на Беларусі.

Паглядзім у якім становішчы знаходзіцца краязнаўчы рух у рэспубліцы.

Каб больш ясна было зразумець—прывядом XIV § рэзолюцыі гэтай конфэрэнцыі па організацыйнаму пытаньню:

„Конфэрэнцыя лічыць і настойна заяўляе, што толькі ў цеснай сувязі з кіраўніком вялікае соцыялістычнае перабудовы жыцьця Беларусі, з яе комуністычнай партыяй пры дапамозе і ўдзеле профэсыянальных працаўнікоў, пры шырокім удзеле нашай кіпучай энэргіі, комсамольскай моладзі, пры дапамозе нашага ўраду,—магчыма будзе паставіць на належныя рэльсы шырокую краязнаўчую працу".

Вось тое, што патрэбна для далейшага разьвіцьця краязнаўчага руху на Беларусі.

Ствараюцца краязнаўчыя таварыствы, гурткі, існуюць навуковыя і навучальныя ўстановы з краязнаўчым напрамкам працы, але ім патрэбна як моральная, так і матар'яльная дапамога, як з боку ўраду, так і з боку грамадзянства.

Вывучэньне краю—гэта ня пустыя словы. Яно зьяўляецца неабходнасьцю дзеля далейшага, як экономічнага ўзмацненьня, так і культурнага ўзросту нашай рэспублікі і таму конфэрэнцыя ў § 1 сваёй рэзолюцыі зьвяртаецца да вышэйшых партыйных, савецкіх і профэсыянальных установ з пажаданьнем, каб краязнаўства было выразна прызнана справаю дзяржаўнай значнасьці, якую неабходна ўвесьці ў сыстэму савецкага дзяржаўнага будаўніцтва.

Гэта ня значыць, што краязнаўства да гэтых часоў ня было прызнана справай дзяржаўнай значнасьці. Не, комуністычная партыя на XII і XIII партыйных зьездах выразна падкрэсьліла тую вялікую значнасьць усебаковага вывучэньня краю ў справе далейшага росквіту нашай прамысловасьці, гаспадаркі і культуры. Але, да гэтых часоў краязнаўства знаходзілася неяк у баку і цікавіліся ім усяго толькі аматары-краязнаўцы, якія на сваіх плячох і выцягвалі ўсю організацыйную працу. Урадам адпуска-

ліся вельмі нязначныя сродкі на краязнаўчыя працы, а грамадзянства амаль-што і да гэтых часоў ніяк ня можа зразумець на што гэта патрэбна і, стаючы з боку, пасыўна глядзіць на краязнаўства, як на нейкую дзіцячую гульню.

Вось чаму і неабходна *выразнае* прызнаньне краязнаўства ня толькі з боку ўраду, але і з боку грамадзянства.

Між тым гэтыя няпрыкметныя аматары-краязнаўцы, адносячыся з каханьнем да свае справы, заклалі ўжо пэўны грунт да далейшага ўзмацненьня і росквіту краязнаўства ў нашай рэспубліцы. Выявілі цяпер на аснове матар'ялаў конфэрэнцыі, наколькі пашырыўся краязнаўчы рух на Беларусі і што ў сучасны мо-мант ён з сябе прадстаўляе.

## Краязнаўчыя гурткі і таварыствы.

Краязнаўчыя гурткі і таварыствы стала пачалі організоўвацца на Беларусі з гэтага году. Раней у некаторых мясцовасьцях яны існавалі, але за адсутнасьцю пэўнага кіраўніцтва праца замірала. Цяпер мы маем стала ўтворанымі акруговыя таварыствы: Віцебскае, Полацкае, Магілёўскае, Барысаўскае, Бабруйскае, Мазырскае, Аршанскае, якія пад кіраўніцтвам Цэнтальнага Бюро Краязнаўства (у Менску) вядуць дасьледчую працу. Праца іх выяўляецца ў аб'яднаньні ўсіх краязнаўцаў, заслуханьні краязнаўчых прац, складаньні бібліографічных паказчыкаў па краязнаўству, утварэньні раёных краязнаўчных таварыстваў і школьных гурткоў, узяцьці на вучот і ахову помнікаў мастацтва, старасьветчыны і прыроды, эканомічным вывучэньні, асобнымі сябрамі таварыстваў, вёскі, археолёгічным дасьледаваньні краю, утварэньні краязнаўчых музэяў, збору бібліотэчных фондаў, дасьледваньні прыродных багацьцяў краю, і г. д.

Праца раёных таварыстваў прыблізна падыходзіць да працы акруговых, але ў меншым абхваце. Трэба адзначыць, што краязнаўчыя таварыствы ў раёнах знаходзяцца ў сучасны момант у пэрыодзе організацыі і пэўнай іх працы яшчэ да гэтых чосоў ня маецца.

Існуюць на абшарах Беларусі і школьныя краязнаўчыя гурткі, якія складаюцца з вучнёўскай моладзі і знаходзяцца пад кіраўніцтвам настаўнікаў. Іхняя праца выяўляецца ў правядзеньні экскурсыяў, утварэньні школьна-краязнаўчых музэяў і падрыхтоўцы да вывучэньня краю.

Справа са студэнцкімі краязнаўчымі організацыямі на Беларусі да гэтых часоў знаходзіцца ў дрэнным становішчы. Адсутнасьць кіруючай студэнцкай краязнаўчай організацыі дае аб сабе адчуваць. Працуючыя краязнаўчыя студэнцкія ґурткі, як пры Менскім С.-Гасп. Інстытуце, пры Белпэдтэхнікуме, гурток па вывучэньню Гомельшчыны, працуюць бясплянава і праца іх, дзякуючы перашкодам, у некаторых выпадках замірае.

Адсутнасьць сродкаў у Цэнтральным Бюро Краязнаўства на выданьне краязнаўчай часопісі, яднаючай усіх краязнаўцаў, вельмі дрэнна адбіваецца на працы краязнаўчых таварыстваў і гурткоў.

## Краязнаўчая праца ў Вузах Беларусі.

Нашы тры вышэйшыя школы: Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Беларускі С.-Г. Інстытут у Менску і Горацкі С.-Г. Інстытут носяць краязнаўчы характар. Дзьве апошнія школы робяць дасьледваньне краю з боку прыродна-эканомічнага, вывучаюць прыродныя багацьці краю, а першая—Унівэрсытэт—з боку культурнага.

Існуючыя пры гэтых вышэйшых школах навуковыя таварыствы, у якія ўваходзяць усе навуковыя сілы, распрацоўваюць работы выключна краязнаўчага напрамку.

Кожная кафэдра, у тым ці іншым напрамку, імкнецца дасьледваць край і яго асаблівасьці.

Конфэрэнцыя са здавальненьнем адзначыла краязнаўчы характар, які прымае ў тэй ці іншай меры праца нашых вышэйійшых школ і, дзеля найбольшай продукцыйнасьці і карыснасьці для дзяржаўных мэтаў, конфэрэнцыя адзначыла, што ўся краязнаўчая праца вышэйшых школ павінна быць як найцясьней зьвязана з Інбелкультам і краязнаўчымі організацыямі аб'яднанымі Ц. Б. Краязнаўства.

## Дзяржаўныя навуковыя інстытуцыі з краязнаўчым напрамкам працы.

Такімі інстытуцыямі ў нас на Беларусі зьяўляюцца: Інстытут Беларускай Культуры, Камісія па вывучэньню прыродных багацьцяў краю пры Дзяржпляне БССР, Беларускі Дзяржаўны Музэй з аддзеламі ў Віцебску і Магілёве, Цэнтральны Дзяржаўны Архіў з аддзеламі ва ўсіх акруговых цэнтрах рэспублікі, Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка—самы найвялікшы падбор кніжак на Беларусі, якая складаецца з 200.000 тамоў кніг у сучасны мамант, Навукова-Экспэртная камісія Наркомасьветы БССР, аддзел сельска-гаспадарчай экономіі Наркомзему БССР і да 15 батанічных садоў—месц культуры рэдкіх і цікавых у навуковым сэнсе расьлін.

Усе азначаныя навуковыя ўстановы знаходзяцца на дзяржаўным утрыманьні і праводзяць кожная па сваёй галіне краязнаўчую працу.

Найгалоўнейшай з гэтых інстытуцый зьяўляецца Інстытут Беларускай Культуры, рэорганізаваны нядаўна па тыпу Украінскай Акадэміі Навук. Інстытут аб'ядвае вакол сябе ўсе навуковыя сілы рэспублікі і праводзіць дасьледчую працу, праз сэкцыі, у розных напрамках.

Камісія па вывучэньню прыродных багацьцяў краю—дасьледуе прыродныя багацьці Беларусі, глебу. Робіць гэолёгічныя досьледы, дасьледуе залежы парод, карысных для нашай прамысловасьці.

У Беларускім Дзяржаўным Музэі, з яго аддзеламі, у Віцебску і Магілёве—сабраны культурныя багацьці Беларусі: помнікі мінуўшчыны, мастацтва, прыроды і г. д. Належачая захова, прывядзеньне ў парадак і апісаньне музэйных каштоўнасьцяй ляжыць на абвязку гэтае ўстановы.

Цэнтральны Дзяржаўны Архыў з яго акруговымі аддзеламі праводзіць збор, захову, упарадкаваньне рукапісных багацьцяў Рэспублікі—архыўных матар'ялаў пачынаючы з XV стагодзьдзя і канчаючы рэволюцыйным часам, з мэтай дасьледаваньня, нікім яшчэ дагэтуль не распрацаваных дакумэнтаў.

Вялікую значнасьць у дзяржаўным культурным будаўніцтве грае і Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка, якая, дзякуючы паўнаце сабраных у ёй кніжных фондаў, дазваляе дасьледчыку любога кірунку карыстацца кніжнымі выданьнямі.

Заданьнем Навукова-Экспэртнай Камісіі зьяўляецца тое, што трэба ўзяць на вучот і ахову ўсіх культурных і прыродных помнікаў Рэспублікі.

Аддзел Сельска-Гаспадарчай Экономіі Наркомзему БССР робіць экономічныя досьледы сельска-гаспадарчай экономікі, шляхам апісаньня асобных сельскіх гаспадарак.

А батанічныя сады Беларусі зьяўляюцца выхвальнікамі ўсіх, як рэдкіх, так і звычайных, але каштоўных у навуковым сэнсе, расьлін.

І конфэрэнцыя, ацэньваючы тую вялікую значнасьць у справе вывучэньня краю гэтых усіх навуковых інстытуцый, прызнала патрэбнай усебаковую дапамогу ім з боку краязнаўчых таварыстваў, гурткоў і навуковых сіл Рэспублікі[1]).

### Агульныя вывады.

З упэўненасьцю можна заўважыць, што краязнаўчы рух на Беларусі шырыцца. Фактарам гэтага пашырэньня зьяўляюцца тыя існуючыя дабрахвотныя краязнаўчыя таварыствы або гурткі, вышэйшыя школы і навуковыя інстытуцыі, якія ў розных галінах дасьледуюць Беларусь.

Але ў пашырэньні краязнаўчага руху павінна прыняць удзел усё грамадзянства, а ў першую чаргу студэнцтва—як культурная сіла.

І калі ўсе горача, з прыхільнасьцю адгукнуцца на прызыў Краязнаўчай Конфэрэнцыі, то можна сказаць,—Беларусь будзе дасьледавана.

---

[1]) Студэнты, якія зацікавяцца пастановамі конфэрэнцыі поўнасьцю, могуць знайсьці іх апублікаванымі ў газэце „Савецкая Беларусь“ № 280—1924 г.

# СТУДЭНЦКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

Леўкоў.

## Да Ўсебеларускай конфэрэнцыі пролетарскага студэнцтва.

У пачатку красавіка адбудзецца Ўсебеларуская конфэрэнцыя пролетарскага студэнцтва, якая ставіць сваёй мэтай падкрэсьліць дасягненьні за мінулы год і намеціць далейшыя задачы.

Падыходзячы да гэтага, мы павінны прагледзяць усе абмылкі, якія зроблены ў нашай працы, адзначыць прабелы яе, узяць усё гэтае пад увагу і агульнымі сіламі скарыстаць для далейшай творчай працы.

Аглядаючыся назад, мы кажам: многа зроблена абмылак; бяз гэтага, зразумела, пакуль што абыйсьціся цяжка, амаль што нельга, але-ж на абмылках мы вучымся.

Трэба таксама адзначыць і дасягненьні, якія галоўным чынам складаюцца ў рэорганізацыі нашых вышэйшых навуковых установ на тэрыторыі БССР. Гэта дасьць магчымасьць плянава гатовіць для рэспублікі кваліфікаваных працаўнікоў, у якіх маецца вялікая патрэба.

Пролетарызацыя нашых вышэйшых навуковых установ, якая ўтворана ў мінулым годзе, зрабіла іх клясавай. Гэта мы таксама адзначаем як дасягненьне адно з найвялікшых.

Матар'яльных сродкаў для забясьпечаньня пролетарскага студэнцтва значна павялічылася, што добра сьведчыць агульны лік стыпэндый (2710 стып. на 6049 студэнтаў).

Політычна-культурныя веды ў добрае часткі студэнцтва ўзраслі, і яны прымаюць шчыры ўдзел у грамадзянскай працы—гэта мы таксама адзначаем.

Мы адзначаем усе нашы дасягненьні, а ня хвалімся імі і ня цешым сябе надзеяй, што ўсё зроблена. Такі погляд, ёсьць ведама, быў-бы няправіловым, вось чаму мы й кажам, што зробленае—толькі пачатак, а ўсё наперадзе.

Ад організацыйнага афармленьня, якому больш усяго ўдзяляем сваю ўвагу, мы павінны перайсьці да пытаньня, як лепш скарыстаць усе нашыя сілы на практычнай працы і такім чынам дапамагчы ў культурным і экономічным разьвіцьці нашай БССР.

Аб'яднаць і зрадніць навуку з працай, штодзённай практыкай у горадзе і вёсцы—вось наш абавязак, наша мэта, наша далейшая задача. Конфэрэнцыя пролетарскага студэнцтва пры дапамозе свайго правадыра комуністычнае партыі гэту задачу вырашыць.

# Якога агронома павінны мы даць вёсцы.

**П. Пінчук.**

Ніхто ня будзе адмаўляць таго факту, што сучасная вёска ўжо ня тая, якою яна была ў дарэволюцыйны час.

Калі да рэволюцыі ў аснове сялянскай вытворча-сельскай гаспадаркі—быў галоўным чынам пачатак сьляпой традыцыі—рабіць так, як дзяды і прадзеды вучылі, дык сучаснае сялянства ў аснову свайго сельска-гаспадарчага вытвору кладзе элемэнт сьвядомасьці. Яно пачынае шукаць новыя формы і прылады палепшаньня свайго сельска-гаспадарчага вытвору.

Да гэтага яго таксама пабуджае Савецкая ўлада праз мясцовыя органы.

Да ліку гэткіх органаў, ажыцьцяўляючых захады па экономічнай і сельска-гаспадарчай політыцы Савецкай ўлады, адносяцца зямельныя органы з агрономічным пэрсоналам.

Сучасны агроном павінен праводзіць дзяржаўную сельска-гаспадрачую і экономічную політыку; ён зьяўляецца неабходным вінтом у складанай машыне сельска-гаспадарчага жыцьця краіны. Гэта накладае на агронома вялікія вымаганьні. Увядзеньне плянавага пачатку, як у галіне агракультурных захадаў, так і ў галіне ўсёй сельска-гаспадарчай і экономічнай політыцы—вось асноўнае вымаганьне ад мясцовага агронома.

Рэволюцыя зрабіла вялікі рух у перабудове сельскай гаспадаркі У парадку дню стаіць задача карэннай рэорганізацыі сельскай гаспадаркі: ліквідаваць трохпалёўку і перайсьці да шматпольля, разьвіць гадоўлю жывёлы і г. д. Значыцца, *мясцовы агроном павінен быць організатарам*. Пры гэтым у справе організацыі тэрыторыі сельскай гаспадаркі агроном павінен працаваць сумесна з каморніцкім пэрсоналам.

Затым, неабходна, каб сельская гаспадарка будавалася не на чыста спажывецкім прынцыпу, як да гэтага часу было, а каб у аснову яго быў паложаны элемэнт экономічны.

Значыцца, агроном павінен быць добрым *экономістым*. Само сабою зразумела, што дзеля здавальненьня гэтых вымаганьняў агроном павінен уладаць дасканалымі ведамі, як па тэхніцы, так і экономіцы сельскай гаспадаркі. Ён павінен быць ня толькі вузкім спэцыялістым, але й мець на-

---

**Ад рэдакцыі**: 1) Рэдакцыя лічыць вельмі важным пытаньне аб характары працы агронома, якога павінен падрыхтаваць наш ВУЗ. 2) Рэдакцыя лічыць, што ўдзел агронома ў коопэрацыйнай працы, якая мае вялічэзнае значэньне, высьветлены ў артыкуле слаба. 3) Даны артыкул толькі ў канцы зьлёгку зачапіў пытаньне на каго павінен апірацца агроном у вёсцы.

**Рэдакцыя** просіць т.т. выказацца на старонках часопісі аб значэньні коопэрацыі ўва ўсім будаўніцтве вёскі і аб удзеле ў ёй, як агронома так і кожнага прадстаўніка вясковай інтэлігэнцыі.

агул—агрономічнае разьвіцьцё—гэта, значыцца, уладаць ведамі па шмат якім галінам сельскай гаспадаркі.

Усе захады мясцовага агронома павінны засноўвацца на масавым мэтаду, ён павінен уносіць у сельскую гаспадарку элемэнты таварыства.

Сюды адносяцца ўтварэньне коопэрацыйнага аб'яднаньня дзеля куплі патрэбных рэчаў, дзеля агракультурнага палепшаньня і організацыя малочных арцеляй, сельска-гаспадарчых колектываў і г. д. Усе захады па сельска-гаспадарчай політыцы неабходна старацца правадзіць на сродкі самога організаванага жыхарства, бо ўлада абслугоўваць цалкам патрэбы сельскай гаспадаркі ня мае магчымасьці, асабліва пры цяперашніх цяжкіх экономічных умовах.

У сваёй працы мясцовы агроном павінен апірацца на вясковыя організацыі: ячэйку комсамолу, сельска-гаспадарчы гурток, школу сялянскай моладзі і інш.

Агроном, які ня зьвяжацца з мясцовымі організацыямі, будзе ў сваёй працы адзінокім і ня будзе мець магчымасьці зрабіць належны ўплыў на сялянскія гушчы.

*Мясцовы агроном павінен быць організатарам, экономістым і грамадзянінам з выяўленым марксіцкім ухілам, каб ён меў магчымасьць, правільна орыентавацца ў тэй складанай абстаноўцы, у якой прыходзіцца працаваць; правільна разумець тую дыфэрэнцыяцыю, якая йдзе паміж сялянскімі гушчамі і грунтоўна абаперціся на беднейшыя групы вёскі.*

---

С-ты Гайдукевіч і Мяцельскі.

# Як падрыхтоўваюцца камандыры вёскі [1]).

> Мы крепко надеемся, что наше студенчество сумеет сделаться так необходимыми для строительства нового общества специалистами, теми специалистами, которые сумеют „видеть“, сумеют отличать в массе явлений ростки новых форм коллективного труда— которые сумеют ухаживать за этими новыми ростками.
>
> *Н. Крупская.* (Партия и студенчество).

Заданьні Інстытуту Сельскай Гаспадаркі вядомы:—падрыхтаваць грамадзянскіх агрономаў і лясьнікоў дзеля будаўніцтва новай культурнай вёскі, такіх будаўнікоў, якія-б умелі сярод нашай яшчэ развалянай дробнай сельскай гаспадаркі знаходзіць расткі новых форм колектыўнай працы.

І кожны крок нашае працы ў ВУЗ'е павінен накіроўвацца толькі ў гэтым напрамку. Аб гэтым многа напісана артыкулаў і сказана досыць здольных слоў. Шмат чаго тут, бязумоўна, залежыць і ад пастаноўкі наагул вучобы ў ВУЗ'е, але ня меншую, калі ня большую, увагу тут трэба зьвяртаць грамадзянскасьці студэнцкай працы. Мы ня зьбіраемся лішні раз скланяць гэты сказ „грамадзянскасць“ ва ўсіх склонах. У сваім артыкуле мы пастараемся намаляваць запраўдны вобраз працы студэнцкіх організацый, а таксама комуністычнага і наагул студэнцтва. Ды трэба ня толькі даваць малюнак, а й знаходзіць, мы-б сказалі, новы шлях працы студэнцтва і кіраўніцтва ім у нашым інстытуце (мо' гэта датычыцца й да другіх ВУЗ'аў).

У нас у інстытуце маецца 26 студэнцкіх організацый 26—ня мала! І ўсе яны як-бы організаваны для таго, каб студэнцтва выяўляла сваю дзейнасьць, перапрацоўвала сваю маладую энэргію ў энэргію будучага будаўніка вёскі.

Пачнем з Выканаўчага бюро пролетарскага студэнцтва і кінем вокам на запраўднасьць.

За год яго дзейнасьці разьбіралася 180 пытаньняў. З іх: 85 іншых (разгляд пратаколаў, заяў і г. д.), 72 організацыйных, 11 пытаньняў, належачых да профсэкцыі, 6 акадэмічных і 6 па культурнай працы. (Як відаць, мусіць, экономічныя пытаньні ўвашлі ў пытаньні організацыйныя). Адзін малюнак пытаньняў кажа, што сапраўднага кіраўніцтва пролетарскім (разумеюцца сябры саюзу) студэнцтвам з боку Вык. бюро ня было. А дзе няма кіраўніцтва, там няма й працы.

— Ды што вы? скажа хто-небудзь. Вык. бюро вяло працу сярод усяго студэнцтва. І аб працы пролетарскага студэнцтва можна судзіць толь-

---

[1]) **Ад рэдакцыі.** Артыкул даецца як спрэчны, рэдакцыя просіць чытачоў выказацца.

кі непасрэдна па матар'ялам саміх сэкцый. Ня будзем спрачацца з гэтым, а лепш сапраўды паглядзім у гэты матар'ял.

„Тав. К. вы выкладаеце справаздачу... Перад намі ня Вык. бюро пролет. студ., а старога студкома,—калі ласка, скажэце, што зроблена Вык. бюро? „Гэта запіска аднаго сябра саюзу да старшыні Вык. бюро, які рабіў справаздачу. На гэтае пытаньне тады нічога ня было адказана. Цікава што-б сягоньня адказаў ён на яго? Як-жа наагул вялася непасрэдна праца ў сэкцыях? Аб гэтым нам яскрава сьведчыць чыстка, дзе ня знаді элемэнтарных пытаньняў па саюзу і адказвалі: „грамадзянскай працы нідзе не вяду (як стаіць пытаньне цяпер будзе відаць далей)".

Выканаўчае бюро фактычна стала організацыяй агульна студэнцкай. Ну што-ж. Затое мусіць запраўды можна пабачыць працу сярод другой часткі студэнцтва. Але ня так яно ёсьць, як гэта думаецца. Праўда, экономічныя і акадэмічныя пытаньні больш-менш вырашаліся Хоць працу першага аддзелу, у большай сваёй частцы, можна разглядаць, як працу касы ўзаемадапамогі. Адны і тыя-ж пытаньні вырашаліся дзьвюма організацыямі. Каса ўзаемнай дапамогі, замест працы наагул сярод студэнцтва (мэты яе ўцягваць у грамадзянскую працу не сяброў саюзу), стала служанкай экономаддзелу.

Аб культурнай працы нам ня хочацца проста гаварыць. Тут толькі пляны, пляны; організацыя і развал гурткоў; выпіска ў чытальню газэт і часопісяй і запрашэньне дакладчыкаў перад канікуламі для правядзеньня гутарак з студэнтамі.

Праўда, можна знайсьці дробязь—былі пастаўлены (у гэтым годзе) у вучэбнай фэрме ў часы ўрачыстасьці спэктаклі, дзе працавала па 13 т. т.; была праца ў час урачыстасьці ў інстытуце, але ці-ж гэта праца 620 студэнтаў? (з іх 320—сябры саюзу). Ці-ж ад гэткай працы наша студэнцтва атрымае хоць-бы разуменьне ленінізму? Не, з дзесятка гурткоў чуць-чуць дзяржыцца (між іншым там як-бы працуюць толькі два комсамольцы) сельска-гаспадарчы, які замест дасьледчай працы ў вёсцы варыцца ў сьценах інстытуту, заслухоўвае на сходах даклады т. т. аб бульбе, травах і т. д., што можна знайсьці ў любым падручніку па гэтых пытаньнях.

Дзе-ж прычыны гэткай працы Вык. бюро. Мо' там гэткія кіраўнікі? Не, ня ў гэтым справа. Тут злыдзень захован у пасяджэньнях, сходах, бегатні маленькай кучкі таварышоў. Яны ўсе заняты, усе... для ўсіх. А з гэтага „для ўсіх"... Але яшчэ рана гаварыць канчаткова. Яшчэ мусіць далёка да нашых паважаных „26". Але нечага тут іх перабіраць па пальцах. Усёроўна маленькага гуртка дзеячоў не пашырыш і грамадзянскай працы студэнцтву ня прыпішаш.

Нам толькі хочацца яшчэ даць адзін прыклад, які пакажа сьлепату т. т. на сучаснае становішча ў інстытуце.

Організоўваецца „Дабрахім". Аднагалосна ў бюро праходзіць сьпіс, прапануемы ячэйкай. Ды й яшчэ-б? Як-жа не прайсьці?! Актыўныя т. т.— працуюць у Вык. бюро, акадэм. аддзеле, у розных камісіях і г. д. І што-ж бачым, за ўвесь час (5 месяцаў) было толькі адно (як гэта яны нашлі часу і на адно?) організацыйнае пасяджэньне. А між іншым „Дабрахім" мае цесную сувязь з інстытутам.

Мы ня будзем больш гаварыць аб працы, а толькі пакажам колькі і хто працуе ў організацыях. З 620 студэнтаў лічыцца 60 т. т., з якіх 40 комуністых і комсамольцаў. Кожны з іх працуе ў некалькіх. Вось прыклад аднаго таварыша: сябра Вык. бюро, сябра Акадэм. аддзелу, сябра Вучэбнага савету, сябра праўленьня інстытуту, сябра і г. д. А якая карысьць з гэтага? Мы аб гэтым ужо досыць гаварылі. І ад такога, у большасьці, становішча залежыць праца комстудэнцтва ня толькі ў самых організацыях, а і наагул сярод студэнцтва, іх акадэмічная (асноўная)

праца і іх пашырэньне марксіцкіх ведаў. І кажучы аб падрыхтоўцы камандзіраў вёскі, мы ня хочам абыйсьці каля гэтых трох галін комстудэнцтва.

Аб першай галіне нам, здаецца, ня трэба гаварыць і мы толькі некалькі слоў скажам аб нашым уплыве на беспартыйнае студэнцтва.

Беспартыйнае студэнцтва як-бы баіцца комстудэнцтва. Ёсьць расколіна. Нам ня трэба гэтага хаваць—мы не сьляпыя, што будзем зацьвярджаць, што маўчаньне на сходах і аднагалоснае правядзеньне нашых прапаноў, сьведчаць аб тым, што ў нас ўсё гладка.

Мы бачым гэтак сама і бурчаньне пасьля сходаў і „аднагалосных прапаноў" і гэтае „таемнасьць" нам кажа, што ўплыву комстудэнцтва на гушчу ў Інстытуце няма.

Другая галіна працы.

Перад намі справаздача комсамольскай ячэйкі. Усіх комсамольцаў у Інстытуце 67.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Першы год | 25 | на I курсе | —55 |
| Другі „ | 25 | на II „ | — 8 |
| Трэці „ | 17 | на III „ | — 4 |

У нас няма пад рукамі справаздачы ячэйкі КПБ. Але можам сьмела заяўляць, што малюнак быў бы тады горш сумны.

Як бачыце, што тыя, ад якіх наша будаўніцтва гаспадаркі хутчэй чакае дапамогі, зусім амаль ня вучацца. Становішча сумнае. І прычыны яго яшчэ больш асьвятляе нам анкета пытаньняў аднаго т., якая ляжыць перад намі

Вось яго сярэднія гадзіны працы ў тыдзень

| | | |
|---|---|---|
| Партыйныя і комсамольскія сходы . . . | 8 | гадзін |
| Студэнцкія сходы і профсэкцыі . . | 8 | „ |
| Пасяджэньні . . . . . . | 15 | „ |
| Часовыя заданьні . . . . . | 6 | „ |
| Чытка газэт . . . . . . | 14 | „ |
| Уласная патрэба . . . . . | 28 | „ |
| | 79 | „ |

Вось на што ідзе каля 12 гадзін у дзень. Калі прыняць пад увагу, што і так сабе бывае пройдзе гадзіна і другая (між пасяджэньнямі альбо сходамі), дык у сярэднім на акадэмічную асноўную працу ідзе ня больш як тры гадзіны, а з гэткімі часамі ў спэцыяльным ВУЗе вядома далёка не заедзеш

Гэты малюнак досыць яскрава сьведчыцца і аб тым, як пашыраюцца марксіцкія веды комстудэнцтва. Недарма Ленінскія гурткі нашы і вышэйшага і ніжэйшага тыпу не пасьпеюць організавацца, як зараз-жа развальваюцца.

Аб чым гаворыць наш артыкул? А вось аб чым.

а) Гушча студэнцтва ня выяўляе сваёй грамадзкасьці (з 620 студэнтаў пастаянную працу даюць 70 ч., часовую 20).

б) Комуністычнае студэнцтва па сваёй працы адышло ад гушчы студэнцтва. (с.-г. гурток, дабрахім, сходы).

в) Ня відаць вывучэньня ленінізму.

г) Комуністычнае студэнцтва ня выпаўняе асноўнай працы ў ВУЗе.

д) У студэнцкіх організацыях працуюць „незаменныя" таварышы.

е) Студэнцкія організацыі не адпавядаюць у сваёй працы.

Што трэба рабіць? Галоўнае аб гэтым сказаў XIII зьʻезд РКП.

„Необходимо самым радикальным образом рационализировать работу коммунистов и комсомольцев так, чтобы общественная работа не

мешала академической и наоборот. С этой целью необходима борьба с организационной безтолочью, параллелизмом в работе, наличностью лишних организаций, работающих на холостом ходу".

Нам трэба правесьці гэтую пастанову ў жыцьцё. Трэба рацыянілізіраваць працу, трэба рашуча адмовіцца ад нямаючых ніякага грунту думак „незаменны працаўнік". Трэба адказацца некаторым т т. лічыць студэнта—комуністага за папіхача—на што хачу і калі хачу вызываю, даю працу і г. д. Продукцыйнасьць працы комуністага—студэнта будзе тады, калі ён сапраўды будзе адчуваць, што асноўная яго праца ў ВУЗе і ён толькі-та гадзін (часу) павінен аддаваць ёй.

Лішнія організацыі ліквідаваць (мы маем тут на ўвазе касу ўзаёмадапамогі, якая не вяла і ня будзе весьці асаблівай працы сярод студэнцтва).

З 6 профсэкцый як найхутчэй зрабіць адну „Рабземлес".

Даць магчымасьць студэнтам з працоўнай сям'і (асабліва стыпэндыятам) уступіць у проф. саюз, і гэтым прыблізіць іх да ўплыву партыі. Сур'ёзна падумаць аб стварэньні агульна студэнцкай організацыі, бо палова студэнцтва (не сябры саюзу), з якіх амаль усё бядняцкае, ня можа ня прымаць удзелу ў студэнцкім грамадзянскім жыцьці. Нам здаецца досыць глядзець на гэта студэнцтва, як на нешта асаблівае.

Паставіць на вырашэньне пытаньне ў інстытуце, аб політыка-культурнай працы па акадэмічным групам.

Адказацца ад гастролёрства па працы ў вёсцы (мы тут разумеем шэфскую працу). Мы лічым, што студэнты інстытуту ня могуць даваць карысьці вёсцы ў шэфскай працы. Карысьць ёсьць там ад шэфства, дзе не зьяўляецца наскокам, а больш менш сталай сыстэматычнай працаю. Нашы студэнты гэтага рабіць ня могуць, зімою праца прарываецца канікуламі, а вясной зусім астаўляюць яе, бо едуць на практыку. Трэба шукаць новых мэтадаў пастаяннай сувязі з вёскаю. І мы тут бачым раёныя зямляцтвы.

Мы лічым, што нашы прапановы вырашаць тыя пытаньні, якія цяпер стаяць у ВУЗе.

Мы гэтак сама ведаем, што знойдуцца т. т., якія будуць гаварыць аб пакушэньні з нашага боку на пролетарскую дыктатуру ў ВУЗе і на пролетарскае кіраўніцтва студэнцтвам (гэта ўжо было). Але дазвольце наперад адказаць, што тыя т. т. тады ня толькі не разумеюць, што значыць пролетарскае кіраўніцтва ў ВУЗе, але не разумеюць і заданьняў, якія стаяць перад нашым студэнцтвам.

---

M. Варфман.

# У Выканаўчым бюро профсэкцый БДУ.

Выканаўчае бюро было выбрана на конфэрэнцыі 19-га кастрычніка мінулага году ў складзе 9 сяброў і 4-х кандыдатаў.

Выканаўчае бюро разьбіта на 4 аддзелы, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на сэкцыі, ячэйкі і гурткі. На чале кожнага аддзелу стаіць сябра Выканбюро.

Усяго ва Ўнівэрсытэце студэнтаў (на 1-ае сьнежня 1924 г.):

Мэдфак—783, Пэдфак—1243, Фон—270, Рабфак—376, а ўсіх разам—2672, якія паддзяляюцца:

Па партыйнаму складу:

сяброў і кандыдатаў КПБ— 222;
" " КСМ-- 314;
беспартыйных—2136.

Па соцыяльнаму становішчу:

рабочых— 282;
дзяцей " — 173;
сялян і сялянскіх дзяцей— 603;
служачых— 835;
дзяцей " — 382;
працоўнай інтэлігэнцыі— 340;
іншых— 57;

Па нацыянальнаму складу:

беларусоў—1236;
жыдоў—1216;
маскоўцаў— 178;
палякоў— 12;
і іншых— 30.

А па факультэтам:

*Мэдыцынскі*—сяброў і кандыдатаў КПБ—29, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—61, беспартыйных—693. Рабочых 18, дзяцей рабочых—62, сялян і сялянскіх дзяцей—182, дзяцей служачых—156, працоўнай інтэлігэнцыі—114, іншых—11. Беларусоў—274, жыдоў—435, маскоўцаў—60, палякоў—2, іншых—12.

*Фон*—сяброў і кандыдатаў КПБ—28, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—6, беспартыйных—236. Рабочых—2, дзяцей рабочых—13, сялян і сялянскіх дзяцей—50, служачых—110, дзяцей служачых—40, працоўнай інтэлігэнцыі—50, іншых—5.

*Пэдагогічны:*—сяброў і кандыдатаў КПБ—59, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—100, беспартыйных—1084. Рабочых—17, дзяцей рабочых—98, сялян і дзяцей сялян—243, служачых—485, дзяцей служачых—186, працоўнай інтэлігэнцыі—176, іншых—38.

*Рабочы ф-т:*—Сяброў і кандыдатаў КПБ—106, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—147, беспартыйных—123, рабочых—245, сялян і сялянскіх дзяцей—128, іншых—3. Беларусоў—196, жыдоў—156, расійцаў—18, палякоў—4, іншых—2.

*Увага*: Пад „служачымі“ трэба разумець тых, якія знаходзяцца фактычна на службе, а „працоўны інтэлігэнт“—трэба разумець асоб свабодных профэсый, якія не знаходзяцца на службе.

## Уплыў студорганізацый ва Ўнівэрсытэце.

Студэнцтва мае сваіх прадстаўнікоў: аднаго сябра праўленьня, прадстаўнікоў у Савеце Ўнівэрсытэту, саветах факультэтаў і аддзяленьняў, дэканатах, прадметных камісіях і іншых. У стыпэндыяльнай камісіі ўсе сябры зьяўляюцца студэнтамі. Такім чынам уплыў студэнцтва на жыцьцё Ўнівэрсытэту ўпаўне забясьпечан. Ні адно прынцыповае пытаньне не праводзіцца ў жыцьцё ўсімі вышэй названымі організацыямі без папярэдняга ўзгадненьня з студэнцтвам.

## Удзел студэнцтва ў грамадзянскай працы ў сьценах Унівэрсытэту (у профсэкцыях, факкомах, культтройках і прадметных камісіях).

*Рабфак*: Па выбару—68, кооптыраваных—21, беларусоў—40, жыдоў—43, расійцаў—4, палякоў—2, сяброў і кандыдатаў КПБ—44, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—28, беспартыйных—17. Мужчын—78, жанчын 11, рабочых—63, сялян—21, служачых—5.

*Пэдфак*: Па выбару—70, беларусоў—40, жыдоў—28, латышоў—2. Сяброў і кандыдатаў КПБ—17, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—25, беспартыйных—28. Мужчын—51, жанчын—19. Рабочых 1, сялян—35, служачых—31 і іншых—3.

*Мэдфак*: Па выбару 106, кооптыраваных—1, беларусоў—48, жыдоў—53, расійцаў—6.

Сяброў і кандыдатаў КПБ—24, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—31, беспартыйных—52, рабочых—9, сялян—33, служачых—75. Мужчын—80, жанчын—27.

*Фон*: Па выбару—12, беларусоў—5, жыдоў—6, татар—1. Сяброў і кандыдатаў КПБ—6, сяброў і кандыдатаў ЛКСМ—1, беспартыйных—5. Рабочых—2, сялян—2, служачых—8, мужчын—10, жанчын—2.

*Усяго:* Па выбару—256, кооптыраваных—22.

Беларусоў—133, жыдоў—130, расійцаў—10, латышоў—2, палякоў—2, татар—1.

Сяброў і канд. КПБ—91, сяброў і канд. ЛКСМ—85, беспарт.—102, рабочых—75, сялян—91, служачых—109 і інш—3.

Мужчын—219, жанч.—59=278.

*Увага*: Сюды не ўваходзяць працаўнікі Выканаўчага бюро й касы ўзаемадапамогі.

*Оргаддзел* кіруе працаю профсэкцый, якіх пры нашым Вузе маецца каля 18, лік сяброў у профсэкцых=1211. (Гл. табл. стар. 46).

Кіраўніцтва гэта праводзіцца праз розныя кіраўнічыя абежнікі (цыркуляры) лісты, галоўным чынам шляхам пэрыодычных справаздач профсэкцый, на пасяджэньнях прэзыдыуму й пленуму Выканбюро, а таксама на нарадах профкомаў і факкомаў.

За час сваёй працы Выканбюро пасьпела правесьці дзевяць пасяджэньняў прэзыдыуму, адзін пашыраны пленум і адну нараду профкомаў і факкомаў. На гэтых пасяджэньнях былі выслуханы даклады 14-х профсэкцый, усіх аддзелаў Выканбюро і аднаго факкому. Мэтаю дакладаў было даць ня толькі кіраўнічыя ўказаньні ў працы, але таксама і вывучэньне вопыту найбольш моцных сэкцый дзеля перадачы гэткага найбольш слабейшым. Сувязь з профсэкцыямі праводзіцца, апрача гэтага, праз Інстытут упаўнаважаных: усе сябры Выканбюро прымацаваны да пэўных

| ПРОФСЭКЦЫІ | Лік сяброў | Партсклад | | | Соцыяльнае становішча | | | | Нацыянальнасьць | | | | Пол | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | сябры і кан. КПБ. | сябры і кан. КСМ. | беспарт. | рабочыя | служ. | сяляне | дзеці рабочых і служ. | белар. | жыды | расійцы | іншыя | мужч. | жанч. | |
| Мэдсанпраца . | 152 | 5 | 11 | 136 | 6 | 95 | 27 | 24 | 47 | 95 | 8 | 2 | 67 | 85 | |
| Гарбары . . . | 73 | 17 | 12 | 8 | 34 | 3 | — | — | 3 | 34 | — | — | 33 | 4 | |
| Швэйпром. . . | 45 | 16 | 18 | 11 | 44 | 1 | — | — | 1 | 44 | — | — | 33 | 12 | |
| Нарсувязь . . | 13 | 1 | 2 | 10 | 3 | 7 | 3 | 9 | 12 | 1 | — | — | 8 | 5 | |
| Будаўнікі . . | 25 | 5 | 8 | 12 | 16 | 2 | 7 | — | 7 | 17 | — | 1 | 25 | — | |
| Саўпрацаўнікі . | 208 | 24 | 25 | 159 | 9 | 192 | 7 | — | 48 | 154 | 6 | - | 125 | 83 | |
| Харчавікі . . | 13 | 3 | 10 | — | 11 | 2 | — | — | 2 | 10 | — | 1 | 9 | 4 | |
| Мэталісты . . | 15 | 8 | 5 | 2 | 10 | 5 | — | — | 5 | 10 | — | — | 11 | 4 | |
| Нарпіт . . . | 18 | 4 | 9 | 5 | 15 | 3 | — | — | 2 | 14 | — | 2 | 3 | 15 | |
| Рабкомхоз. . . | 14 | 1 | 3 | 10 | 3 | 5 | 3 | 3 | 4 | 10 | — | — | 11 | 3 | |
| Дрэваапрацоўн. | 32 | 10 | 8 | 14 | 18 | 14 | — | — | 11 | 21 | — | — | 24 | 8 | |
| Рабземлес . . | 110 | 19 | 40 | 51 | 22 | 6 | 72 | 10 | 92 | 6 | — | 12 | 96 | 14 | |
| Чыгунач. . . | 15 | 2 | 3 | 10 | 15 | — | — | — | 14 | — | 1 | — | 13 | 2 | |
| Рабпрос . . . | 450 | | | | | | | | | | | | | | сводкі няма |
| Трансраб. . . | 16 | 2 | 3 | 11 | 4 | 12 | — | — | 4 | 12 | — | — | 12 | 4 | |
| Хімікі . . . | 20 | 1 | 10 | 9 | 16 | 4 | — | — | 9 | 7 | — | 4 | 18 | 2 | |
| Друкары . . . | 22 | 7 | 8 | 7 | 12 | 8 | 2 | — | 2 | 20 | — | — | 16 | 6 | |

сэкцый; гэтыя сябры акуратна бываюць на ўсіх пасяджэньнях профкомаў і агульных сходах і заўсёды зьдзейсьняюць сувязь Выканбюро з профсэкцыямі. Апрача гэтага, сэкцыі пасылаюць у Выканбюро ўсе свае пратаколы. Шмат якія профсэкцыі прарабілі вельмі вялікую працу як унутры самых сэкцый, так і ў саюзах у асаблівасьці.

Сувязь сэкцый з саюзамі наладжана. У частцы саюзаў сувязь зразу-ж увайшла ў нармальную каляіну; старшыні профсэкцый часта зьяўляюцца сябрамі цэнтральнага праўленьня саюзаў Беларусі.

Матар'яльнае дапамогі, якую даюць профсаюзы сэкцыям, не хапае. Ня ўсе саюзы гэту дапамогу аказваюць, а тыя, якія даюць што-небудзь сэкцыям, то не пэрыодычна, за выключэньнем двух, трох саюзаў. Культпрацу ў саюзах сэкцыі вядуць пад непасрэдным кіраўніцтвам палітпрасьвету Выканбюро, а ў частковасьці й з дапамогай сіл, якія выдзяляе апошні.

Сувязь з беларускім аб'яднаньнем пролетарскага студэцтва (Б.Б.П.С.) наладжана. Старшыня Выканбюро зьяўляецца сябрам Белбюро. Апрача гэтага існуе сувязь шляхам абмену пратаколамі. З другімі ВУЗ'амі і тэхнікумамі Беларусі ў нас сувязі амаль што няма. З тымі навуковымі

ўстановамі, якія знаходзяцца ў Менску, як, напрыклад, Сельска-Гасп. Інстытут і тэхнікумы, сувязь наладжана праз агульны ўдзел у розных камісісях, якія маюць агульна-студэнцкае значэньне, у кампаньнях, а таксама закліканьнем іх на нашы вечары.

## Экономпраца.

*Матар'яльнае становішча студэнцтва.* Становішча студэнцтва ў гэтым годзе погоршылася ў параўнаньні з мінулым годам, што тлумачыцца чыста клясавым прыёмам у гэтым годзе, у выніку чаго павялічыўся рабоча-сялянскі склад студэнцтва. Да гэтага часу мы мелі толькі 600 стыпэндый, у той час, калі патрэбна больш за тысячу. Гэта пытаньне было паднята ў вышэйшых установых улады і вырашана станоўча. З першага студзеня колькасьць стыпэндый павялічаецца на 300.

*Агульнае памяшканьне.* Дзеля абслугоўваньня памяшканьнем часткі студэнцтва, якая гэтага найбольш патрабуе, у нас маюцца чатыры агульныя памяшканьні, якія зьмяшчаюць у сабе 340 асоб. Агульныя памяшканьні больш менш добра абсталяваны ўсімі належнымі рэчамі.

*Сталоўка.* Сталоўка абслугоўвае усіх стыпэндыятаў асноўнікаў і рабфакаўцаў, а таксама кандыдатаў на стыпэндыю, якія адтрымоўваюць абеды за кошт Выканбюро. А ўсяго абслугоўвана сталоўкай 1000 чалавек.

Для абслугоўваньня студэнтаў маецца таксама свая цырульня (парыкмахерская) з 6-ю рабочымі. Цырульняю карыстаюцца ўсе стыпэндыяты.

*Даходныя прадпрыемствы.* Дзеля адшуканьня сродкаў на палепшаньне матар'яльнага становішча студэнцтва ў нас існуе сталоўка, даход ад якой за першую палову году складаў пяць тысяч рублёў, а за другі — трэба думаць больш. (Балянс яшчэ не гатоў).

*Коопэрыраваньне.* У гэтым годзе праведзена коопэрыраваньне стыпэндыятаў, сяброў профсаюзаў. Больш за 500 чал. уступіла ў сябры Ц. Р. К. на роўных правох з беспрацоўнымі: заміж пяці рублёў узносу — адзін рубель дваццаць кап. на выплату ў працягу двох месяцаў.

Маецца на мэце ў бліжэйшы час адчыніць шавецкую майстэрню для абслугоўваньня найбольш патрабуючай часткі студэнцтва. Апрача гэтага, пры атрыманьні патрэбных сум, прыступіць да даабарудаваньня й рамонту агульнага памяшканьня.

## Акадэмпраца.

*Сувязь з факкомамі* (Рабфака, Пэдфака, Мэдфака й Фона) выяўляецца ў прадстаўніцтве факкомаў (па аднаму ад факкому) у Акадэмаддзеле Выканбюро, а таксама ў прысылцы факкомамі пратаколаў сваіх пасяджэньняў.

*Реорганізацыя выкладаньня.* На Пэдфаку й Мэдфаку распрацоўваецца пытаньне аб рэорганізацыі мэтадаў выкладаньня. На Рабфаку пытаньне аб прыстасаваньні „Дальтонаўскага пляну“ вырашана станоўча.

*Сувязь і кіраўніцтва факкомаў прадметнымі камісіямі моцная.* Прадстаўнікі студэнцтва ў прадметных камісіях (трэцяя частка ўсяго складу прадметных камісій) прыходзяць на пасяджэньні камісій з дырэктывамі факкоммаў, якія маюць сумесна з імі папярэдняе суджэньне па пытаньням, якія павінны разьбірацца на пасяджэньнях камісій.

*Сувязь факкомаў з дэканатамі* вельмі трывалая. Прадстаўнікі ад студэнцтва на кожным факультэце ўваходзяць у прэзыдыум факультэту ў якасьці сябра яго, а часта й у якасьці сэкратара.

*Выдзяленьне навуковых супрацоўнікаў* і працаўнікоў заўсёды ўзгадняецца з студэнцкімі організацыямі.

*Навуковыя стыпэндыі.* Наш унівэрсытэт атрымаў 6 навуковых стыпэндый. Гэтыя стыпэндыі прадстаўлены найбольш здольным і выдатнейшым студэнтам.

*Бібліотэка.* У веданьні Акадэмаддзелу маецца бібліотэка дзеля абслугоўваньня студэнтаў-сяброў касы ўзаемадапамогі. Бібліотэка гэта прыносіць вялікую дапамогу бяднейшаму студэнцтву, якое ня можа купіць навуковых падручнікаў. Нядаўна куплена ў Ленінградзе на 1000 р. розных кніг, а зараз бібліотэка налічвае звыш 3000 кніг па розвым важнейшым дысцыплінам.

*Конспэкты.* У гэтым годзе праводзіцца першы вопыт выпуску Пэдфакам конспэктаў па дысцыплінам, якія чытаюцца.

## Політасьвет праца.

У заданьні політасьветы, акрамя політыка-асьветнай дзейнасьці, уваходзіць таксама кіраўніцтва, кантроль і аб'яднаньне культурнае працы агульнаўнівэрсытэцкіх гурткоў, культтроек факкомаў і культкамісій профсэкцый. Зараз у веданьні політасьветы знаходзіцца 13 студэнцкіх організацый (у гэты лік ня ўваходзяць гурткі, якія працуюць пры факкомах) і культкамісіі 18-ці профсэкцый. Праца па кіраўніцтву гэтымі організацыямі вядзецца галоўным чынам шляхам пэрыодычнага выкліканьня іх на пасяджэньні політасьветы. На гэтых пасяджэньнях гурткі і профсэкцыі з аднаго боку блізка знаёмяцца з ходам працы Політасьветы іншых організацый, з другога боку яны робяць падрабязговыя вычарпальныя даклады, гэтым самым уводзячы ў кола сваёй працы Політасьвету. Політасьвета сьцісла паказвае ім іх недахопы й памылкі і, у выпадку патрэбы, выпраўляе іх агульную лінію. Трэба адзначыць, што агульная лінія працы амаль што ня ўва ўсіх організацыях, якія давалі да гэтага часу справаздачы (а такіх ёсьць каля 20,—пры гэтым некаторыя давалі справаздачы ўжо па некалькі разоў) прызнана Політасьветаю правільнай. У далейшым Політасьветы мае на мэце прыняць меры дзеля яшчэ больш цеснай сувязі з пададпаведнымі ёй організацыямі; між іншым існуе думка ўтварыць пад кіраўніцтвам Політасьветы нараду прадстаўнікоў гурткой і профсэкцый. Культ. і політасьвет. праца вядзецца Політасьветаю галоўным чынам праз сэкцыі мастацкую, агітацыйна-пропагандыцкую й друк.

Мастацкая сэкцыя, да якой налёжаць жыдоўскі, беларускі й расійскі драмгурткі, хор, струнны, сымфонічны і духавы оркэстры, прымала ўдзел ў цэлым шэрагу постановак. Больш половы ўсіх постановак праведзена для розных профэсыянальных і партыйных організацый (розныя профсэкцыі, ячэйкі), і Чыр. Арміі (у тым ліку для падшэфнай Ун-ту 7-ой Аб'яднанай Вайсковай Школы, і для падшэфнага Пэдфаку 41-га Каўпалку). Адзін раз Беларускі драм гурток выяжджаў у падшэфны раён. Большасьць нумароў, як драматычных, так і харавых праходзіць на беларускай мове (75 проц. агульнага ліку)

Беларускі драмгурток па ліку сяброў зьяўляецца першым: ён налічвае ў сабе звыш 100 чалавек. Беларускі драмгурток меў 11 выступленьняў, расійскі хор—19, струнны оркестр—7, сымфонічны—5.

Праз мастацкую сэкцыю з Політасьветаю цесна зьвязан гурток фізкультуры, які раскінуў сваю працу на некалькі спортгруп.

Сэкцыя друку кіруе насьценнымі, вуснымі й сьветавымі газэтамі, якія выдаюцца факультэтамі і выходзяць даволі часта й рэгулярна.

Пры сэкцыі існуе бюро студкораў.

У працы агітацыйна-пропагандыцкай сэкцыі найбольшую ўвагу і інтарэс вызывае нядаўна рэорганізаваны Лектарскі колектыў, які абслугоўвае студэнцкімі сіламі гурткі па політпісьменнасьці і профруху пры

профсаюзах. Праца колектыву разгарнулася шырока. Усе т. т., якія ўступаюць у колектыў, даюць апытальныя лісты й падлягаюць апытаваньню, якое выяўляе іх ідэолёгію і стопень тэорытычнай падрыхтоўкі. Гэтыя таварышы накіроўваюцца на працу пераважна праз Культаддзел цэнтральнага Савету профсаюзаў Беларусі і раўналежна запытаньняў аддзельных профсэкцый. У сярэднім працай колектыву ахоплена ў політ. і профгурткох каля 600 рабочых

Кантроль за заняткамі праводзіцца бюро, пэрыодычнымі справаздачамі лектароў, заведваньнем сябрамі бюро заняткаў гурткоў і знаёмствам на мясцох з пастаноўкай працы. Бюро зварачае вялікую ўвагу пытаньням мэтодыкі. Вырашана павялічыць працу сярод чырвонаармейцаў, з гэтаю мэтай выдзяляецца кадр лектароў, якія і накіроўваюцца на працу сярод чырвонаармейцаў. Зараз перспэктывы працы значна пашыраюцца таму, што акрамя лектарскага колектыву, профсэкцыі выдзяляі сваіх лектароў у адзіны колектыў пры Політасьвеце Выканбюро.

Непасрэдна прылягаюць к Політасьвеце ячэйкі і гурткі.

*Ячэйка П. Н.* організавана ў канцы жніўня. Быў зроблены падлік няпісьменных і малапісьменных сяброў па гораду, пасля чаго была распачата організацыя лікпунктаў. Усяго ахоплена 14 саюзаў. Колькасьць малапісьменных і няпісьменных залічаных у школы лікняпісьменнасьці на сёнешні дзень складае 1463. Ячэйка налічвае 283 сябры, з якіх 196 працуе непасрэдна па ліквідацыі няпісьменнасьці, астатнія ў якасьці організатараў і практыкантаў. Штонядзельна ўладжваюцца агульныя сходы ячэйкі, на якіх ставяцца мэтодычныя даклады й падлічваюцца вынікі практычнай працы. У дзень пацёхгодзьдзя выданьня дакрэту аб ліквід. няпісьменнасьці былі падлічаны вынікі працы за пэрыод жнівень—сьнежань месяцы. Профэсыянальныя організацыі і масы канстанавалі вялізарныя посьпехі ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці за гэты пэрыод і, асабліва падкрэслілі ролю пролетарскага студэнцтва ў гэтай справе.

Па ўсім саюзам ячэйкай былі праведзены вечары самадзейнасьці сяброў, якія вучацца на лікпунктах. Сіламі самых вучняў былі выпушчаны вусныя газэты, ставіліся спэктаклі. Дэмонстрацыя посьпехаў тых асоб, якія вучацца на лікпунктах, паказала, што пастаўленая ячэйкай „П. Н.“ пры Б. Д. У. задача-да 1-га траўня 25 году ліквідаваць няпісьменнасць сярод ўсіх сяброў саюзаў гораду Менску—будзе выканана на ўсе 100 проц.

*Ячэйка МОПР* налічвае каля 900 сяброў, ня лічачы студэнтаў служачых, якія лічацца сябрамі МОПР у ячэйках пры сваіх прадпрыемствах. Ячэйка прымала актыўны ўдзел у правядзеньні нядзелі МОПР. Сябар бюро ячэйкі ўваходзіць у акруговы комітэт МОПР. Да 1-га лютага прадбачыцца ўцягненьне ў сябры МОПР усіх студэнтаў

*Ячэйка Дабрахім* налічвае 120 сяброў. Пры ячэйцы існуюць гурткі: па вывучэньню хіміі і агітацыйна-пропагандыцкі.

Організавана ячэйка „ОДВФ“, вядзецца запісь сяброў.

*Ячэйка Эспэранто* аб'яднае 68 чалавек і разьбіта на дзьве групы: старэйшая ў 16 сяб. і малодшая—52. Заняткі вядуцца рэгулярна.

*Ячэйка НОТ* аб'яднае 28 чалавек. Прачытаны тры даклады сябрамі ячэйкі і адзін прадстаўніком Бюро НОТ пры Н. К. Р. С. І. Беларусіі. Дасьледавана праца касы ўзаемадапамогі студэнтаў БДУ, даны ўказаньні аб зьнішчэньні прыкмечаных недахватаў. Распрацованы ўмовы конкурсу на растраччыка чужога часу (конкурс пасьля канікул). Падлічана ўся літаратура па „НОТ“ пры Унівэрсытэцкай бібліотэцы. Кожнаму „нотысту“ на канікулы дана заданьне прыгатаваць рэфэрат наконт кніг па НОТ, якія чытаў сябра ячэйкі, і выканаць магчымую працу па НОТ Выяўлены недахопы і прыгатаваны конкрэтныя прапазыцыі дзеля—узьдзеяньня праз Выканбюро па наступным пытаньням: 1) рацыя-

налізацыя разьвешваньня абвестак, 2) аб працы студэнцкіх організацый, 3) гігіенічныя ўмовы ў памяшканьнях Пэдфаку й агульных памяшканьнях, 4) аб сходах і пасяджэньнях і 5) аб спазьненьнях на лекцыі.

*Антырэлігійны гурток* існуе каля двох месяцаў і аб'яднае 90 чалавек; штонядзельна кіраўнікамі гуртку, якімі зьяўляюцца профэсары, чытаюцца даклады па антырэлігійным пытаньням.

Політасьветай організаваны на факультэтах Ленінскія куткі й ёю кіруецца праца чытален. Куткі й чытальні ўтрымоўваюцца за кошт Выканбюро.

Апрача ўсяго політасьветай праведзен цэлы шэраг ударных прац, як, напрыклад, сьвяткаваньні: 7-май гадавіны кастрычніка, трохгадовага юбілею Ўнівэрсытэту, а самае апошняе кампанію па падрыхтоўцы ад'яжджаючых на канікулы ў вёску студэнтаў—дзеля якой мэты ўсе ад'яжджаючыя былі ўзяты культройкамі факультэтаў на ўлік, студэнтам былі выданы „путевки" ў адпаведныя сельсаветы, па звароце якіх апошнімі будуць зроблены нататкі, а выпаўненьні даручанай ім працы. Дзеля ад'яжджаючых быў зроблены вечар провадаў з дакладам Старшыні Саўнаркому Беларусіі тав Адамовіча й разданы спэцыяльныя брошуры наказ „Спадарожнік студэнта."

Вядзецца падрыхтоўка да ўшанаваньня Наркома Асьветы Беларусіі тав. Ігнатоўскага першага дэкана факультэту грамадзянскіх навук.

## Каса ўзаемадапамогі.

Спачатку вучэбнага году была праведзена перарагістрацыя і адчынены новы прыём сяброў. Зараз каса аб'яднае 1776 сяброў. Узносы ўстаноўлены наступныя: уступны—10 кап., месячны—5 кап.

Галоўную сваю ўвагу Праўленьне Касы зварачае на адшуканьне сродкаў. За гэты час наладжана 4 спэктаклі, адна лекцыя й адчынены два буфеты ў памяшканьнях У-ту. Пры стале працы касы організован колектыў у 50 асоб па выпрацоўцы папяровых мяшочкаў; колектыў разносу газэт пры Дзяржаўным Выдавецтве і выдан плякат „Таргова-прамысловая Беларусь." Прадбачыцца організацыя ў бліжэйшыя часы шавецкай і пераплётнай майстэрняў і адчыненьне трэцяга буфэту ва Ўнівэрсытэцкай бібліотэцы.

Г. Бондар.

# Кузьня чырвоных агрономаў і лесаводаў.

Беларускі Дзяржаўны Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Кастрычнікавай рэволюцыі вайшоў ужо ў трэці год свайго існаваньня.

Далёкімі цяпер здаюцца тыя дні, калі быў зачынены Політэхнікум і на яго месцы пачаў закладацца грунт для новай культурнай крыніцы, неабходнасць якой была куды большая, чымся ў Політэхнікуму.

Ня відаць ужо больш студэнцтва ў форменных вопратках з значком на шапцы, якімі быў напоўнены Політэхнікум, яны адыйшлі ў вечнасьць. Ня чуваць у доўгіх калідорах інстытуту старых студэнцкіх песьняў, іх зьмяняюць новыя, рэволюцыйныя, якія адпавядаюць сучаснасьці. Няма таксама нявольніцкага ўхваленьня перад профэсурай, яго пачынае зьмяняць здаровая сяброўская сувязь.

Ня глядзячы на тое, што Інстытут заснованы ў новы час, студэнцтвам у першыя дні яго існаваньня кіравалі студэнцкія органы, якія называліся старастатамі. Істотнай працы не вялося. Старастат наладжваў вечары мяшчанскага характару і больш нічога. Удзельнікам на гэтых вечарох было студэнцтва, якое засталося ў Менску пасьля ліквідацыі Політэхнікуму.

Трэба адзначыць, што студэнцтву зачыненага Інстытуту была дадзена магчымасьць пераводзіцца ў другія Вышэйшыя навуковыя ўстановы Рэспублік.

Прыём першага году быў яшчэ ня зусім чыста клясавым. Гэта тлумачыцца тым, што ня было жадаючых паступаць у новаадчынены Інстытут, а калі й былі, то надта мала. Прымаючы пад увагу, што тыя асобы, якія мелі камандыроўкі, паступалі ў больш старыя Вышэйшыя навуковыя ўстановы, то ў наш Інстытут трапіў значны процант нэпманаўскай моладзі.

Але прайшло два гады, за якія дзякуючы акадэмічнай чыстцы і наступнаму прыёму, склад студэнцтва Інстытуту значна зьмяніўся. К першаму студзеня 1925 году мы маем 622 асобы, з якіх: 320 знаходзяцца на агрономічным аддзяленьні і 302 асобы на лясным.

Па соцыяльнаму складу падзяляюцца наступным парадкам: сялян—347; рабочых—154; служачых—102 і іншых—19 асоб. Па нацыянальнаму складу: беларусоў—452; расійцаў—72; жыдоў—87; палякоў—2: іншых—19. Па полу: мужчын—575, жанчын—47.

Па партыйнасьці:—Сяброў і кандыдатаў партыі—19 асоб; сяброў і кандыдатаў ЛКСМБ—67 асоб.

З агульнага ліку студэнтаў 354 асобы лічацца сябрамі профсаюзаў

### Організацыя профсэкцый.

Організацыя студэнцтва па профэсыянальнаму прынцыпу унесла шмат новага ў жыцьцё ўсяго Інстытуту.

З прычыны таго, што студэнцкія організацыі пачалі працаваць не самастойна, як гэта было раней, а пад кіраўніцтвам Рады профсаюзаў Беларусі, пачалі паступова адыходзіць на задні плян папярэднія нудныя

пасяджэньні старастату. якія паходзілі па сваёй офіцыйнасьці не на орган студэнцтва, а на які-небудзь буржуазны сойм з доўгімі прамовамі і патайным галасаваньнем.

У першыя часы былі організаваны дзьве профсэкцыі. У цяперашні-ж час Выканаўчае бюро аб'яднае шэсьць профсэкцый: працаўнікоў зямлі і лесу, працаўнікоў асьветы, савецкіх працаўнікоў, кажэўнікаў, чыгуначных пераводчыкаў і нарсувязі. У трох першых профсэкцыях, якія аб'яднаюць большы лік сяброў, маюцца профкомы, а ў апошніх упаўнаважаныя.

### Праца профсэкцый.

Больш грунтоўная профсэкцыя ў Інстытуце—працаўнікоў зям л лесу, у якой лічыцца 172 асобы.

У бягучым годзе профкомам зьвернута вялікая ўвага на вывучэньне профруху. Ужо організаваны і працуе гурток, які мае 30 найбольш актыўных сяброў саюзу. Гуртком кіруе сябра прэзыдыуму ЦК саюзаў. Для астатніх сяброў сэкцыі наладжваюцца на агульных сходах гутаркі па профруху.

Як для гуртка, а таксама й для астатніх сяброў сэкцыі, профком выпісвае ўсе пэрыодычныя выданьні ЦК працаўнікоў зямлі і лесу.

Профсэкцыя ўзяла шэфства над саўхозамі вёскі Сьляпянка, дзе сябры профсэкцыі рэгулярна па нядзелях (вольныя ад працы дні) вядуць гутаркі на розныя тэмы. На працягу двух месяцаў шэфства ў Сьляпянцы было пастаўлена 5 спэктакляў, організаваны сельска-гаспадарчы гурток, які налічвае больш за 30 асоб сялян і вясковай моладзі. Профкомам здабыта для вёскі Сьляпянкі невялічкая бібліотэчка па сельскай гаспадарцы. Таксама організавана хата-чытальня, у якую дастаўляюцца неабходныя газэты й часопісі за кошт профкому. Профкомам аплачваецца памяшканьне, у якім знаходзіцца чытальня і сельска-гаспадарчы гурток.

З першага студзеня ў саўхозе і ў вёсцы будуць працаваць тры сябры па ліквідацыі няпісьменнасьці і адзін сябра па ліквідацыі профняпісьменнасьці сярод служачых саўхозу.

Распачынаецца праца па організаваньню пры клюбе саўхозу кутка Леніна.

Ёсьць думка абхапіць яшчэ працай і саўхоз Вязель пры станцыі Фаніпаль.

Другая меншая па ліку сяброў сэкцыя Інстытуту—гэта сэкцыя працаўнікоў асьветы, якая аб'яднала 89 асоб. Грунтоўная праца гэтай сэкцыі апрача вывучэньня профруху—ліквідацыя няпісьменнасьці. Усе сябры гэтай секцыі ўваходзяць у склад ячэйкі „Прэч няпісьменнасьць". Апрача іх яшчэ 65 асоб з другіх профсэкцый.

У цяперашні час ліквідуецца няпісьменнасьць сярод саюзаў: працаўнікоў зямлі і лесу, мэталістаў, нарсувязі і на шкляным заводзе.

Організаваны ячэйкі „прэч няпісьменнасьць" у вучэбнай фэрме ў Лошыцы і Прылуках.

Усе іншыя профсэкцыі, як саўпрацаўнікоў—35 асоб, нарсувязі—12, чыгуначных пераводчыкаў—13, кажэўнікаў—9, самастойнай працы, апрача працы ўнутры сэкцыі, не вядуць, а прымаюць удзел у працы з першымі сэкцыямі.

### Матар'яльнае становішча студэнцтва

лепшае, чымся ў мінулыя годы, але ўсё-ж ня зусім добра матар'яльна забясьпечана студэнцтва Інстытуту. Асабліва цяжка жылося ў пачатку бягучага акадэмічнага году, калі ня было яшчэ дзяржаўнай грашовай да-

памогі і калі сталовая існавала за сродкі студэнтаў. Але пачынаючы з сьнежня месяца 1924 г. становішча палепшылася.

У цяперашні час экономаддзел пры Выканбюро мае сталоўку, якая дастаўляе ільготныя абеды 350 асобам. Сталоўка гэта знаходзіцца на ўтрыманьні праўленьня Інстытуту, якое адпусьціла 7000 рублёў на 10 месяцаў у крэдыт студэнтам. Каштоўнасьць абедаў у месяц для стыпэндыятаў—6 рублёў, для студэнтаў першай катэгорыі па патрэбнасьці—3 р. для другой катэгорыі—6 рублёў і для трэцяй 7 р. 50 к.

З кастрычніка месяца праўленьне Ін-ту адпушчала 240 дванаццацірублёвых стыпэндый, але прымаючы пад увагу, што азначаная колькасьць не здавальняла запатрабаваньняў студэнцтва, Выканбюро падняло пытаньня перад Ц. В. К. Б аб дадачы яшчэ 100 стыпэндый. Ц. В. К. Б. прыняў гэта пад увагу і ўхваліў з першага студзеня гэтага году адпусьціць яшчэ 85 стыпэндый. Разам з тым Цэнтральным Выканаўчым камітэтам Беларусі таксама адпушчаецца 250 рублёў на організацыю і абсталяваньне шавецкай майстэрні. Майстэрня, якая абслугоўваецца сіламі студэнцтва, пачала ўжо працаваць. Плата за папраўку абутку досыць даступная, пры гэтым стыпэндыятам папраўляюць у крэдыт.

Куды горш стаіць справа з агульнымі памяшканьнямі.

Шмат просьбаў было зроблена ў гэтым напрамку, але прымаючы пад увагу кватэрны крызіс у Менску, дасягнуць нічога не ўдалося.

Маецца адно агульнае памяшканьне, у якім зьмяшчаецца толькі 60 асоб. Апрача гэтага агульнае памяшканьне знаходзіцца ў значнай адлегласьці ад Інстытуту і зусім дрэнна абсталёвана. Так, напрыклад, на 60 асоб маецца 5 больш менш добрых сталоў і 10 стульляў. Асьвятленьне таксама нездавальняючае.

Вядома, што сталай акадэмічнай працы пры такіх умовах павесьці нельга.

Праўда, праўленьне Інстытуту асыгнавала на ўтрыманьне і абсталяваньне агульнага памяшканьня 2,500 рублёў, але да апошняга часу апрача дроў нічога больш не адпушчана.

Сталага агульнага памяшканьня пакуль што няма. Прауда, агульнае памяшканьне было ўжо адпушчана па Унівэрсытэцкай вульцы, але ў сілу неабходнасьці акруговаму выканаўчаму комітэту прышлося перадаць яго вайсковай часьці.

Студэнцтва зьмясьцілася часткаю ў „Доме селяніна“, а часткаю на прыватных кватэрах.

Цяпер здабыта другое памяшканьне на 60 асоб, якое адрэмантуецца к пачатку другога трыместру 1925 году.

Аб патрэбнасьці агульнага памяшканьня гаворыць той факт, што яшчэ да апошняга часу некалькі таварышоў, якія перавяліся з Горацкага Інстытуту, жывуць за 6 верст ад гораду ў фэрме Лошыца. Пытаньне аб агульным памяшканьні—самае балючае пытаньне, ад якога залежыць акадэмічная пасьпяховасьць.

Пры Выканбюро існуе каса ўзаемадапамогі і працоўная арцель. Мэта касы ўзаемадапомогі,—гэта аб'яднаньне студэнцтва, якое не ўваходзіць у склад профсаюзаў і дапамога бяднейшаму студэнцтву. У касе ўзаемадапамогі маецца 1.250 руб., з якіх дадзена ў пазыку 820 р. і каля 200 рублёў з гэтага ліку без звароту назад.

З мэтай здабычы сродкаў касай наладжваюцца платныя вечарылекцыі.

Роля студэнцкай арцелі, у якой налічваецца каля 300 асоб—гэта адшуканьне рознае працы для сваіх сяброў з мэтай дапамагчы ім праз заработкі.

Трэба падкрэсьліць, што працарцельлю спачатку бягучага акадэмічнага году зароблена ўжо каля 2.000 рублёў. Лік досыць вялікі, але нямала ён падарваў энэргіі студэнцтва, што адбіваецца на занятках.

## Акадэмічнае жыцьцё.

Пры Выканбюро існуе акадэмічны аддзел, які провілова накіроўвае акадэмічнае жыцьцё студэнцтва.

З мэтай зьмены мэтадаў выкладаньня і зьнішчэньня схолястыкі, у пачатку бягучага году была складзена камісія, у якую апрача студэнцкіх прадстаўнікоў увайшла і профэсура.

У Інстытуце ў аснову паложаны сэмінарска-групавы мэтад выкладаньня.

Праверка ведаў будзе адбывацца ня ў выглядзе выпытаў, як гэта было раней, а ў процэсе перапрацоўкі тэй ці іншай дысцыпліны. Грунтоўная мэта гэтага мэтаду ёсьць разьвіцьцё ў студэнцтва самадзейнасьці і ініцыятывы, пад непасрэдным кіраўніцтвам профэсуры.

У першым трыместры былі ўжо прыстасованы для некаторых прадметаў групавыя заняткі (анатомія жывёлаў, матэматыка, мінэралёгія і інш). За кароткі тэрмін заняткаў па такім мэтаду мы праканаліся, што веды студэнцтва атрымала куды больш, чымся пры сыстэме залікаў.

Характэрна адзначыць, што некаторыя сябры, якія ўжо здалі залік, запісваліся ў групы для перапрацоўкі таго-ж прадмету.

Прычына, якая перашкаджала групавой працы ў першым трыместры, тая, што большасьць студэнтаў адставалі ў працы.

Поруч з сэмінарска-групавымі заняткамі па некаторым прадметам чыталіся лекцыі, што перашкаджала заняткам, утвараючы некаторую раскіданасьць.

Камісія зараз кончыла працу па апрацоўцы нармальнага вучэбнага пляну, мэтадаў выкладаньня і праверкі ведаў. Цяпер яна вырашае пытаньне, як прыстасаваць апрацаваны плян да другога трыместру, у які думаюць увесьці цыклявыя заняткі, інакш кажучы, увесь курс разбіваецца на 4 групы (па 20—25 асоб у кожнай). Адпаведна гэтаму ўсе прадмэты падзяляюцца на 4 цыклы (па 2—3 прадметы ў цыкл). Кожная група распрацоўвае цыкл прыблізна на шэсьць тыдняў, потым мяняецца з другой групай.

З прычыны таго, што пытаньне аб рэформе Інстытуту, ці лепш кажучы мэтадаў выкладаньня, складанае, загэтым я аб ім у гэтым аглядзе сказаў у кароткіх рысах, спадзяючыся, што гэта пытаньне ў наступным нумары нашай часопісі будзе высьветлена больш падрабязна.

У гэтым акадэмічным годзе ў Інстытуце ўведзены новыя грамадзянскія дысцыпліны.

Трэба адзначыць, што між часткай профэсуры й студэнцтвам у справе правядзеньня новага вучэбнага пляну была поўная згода. Праўда, некаторая частка профэсуры, менш значная, і да гэтага часу ідзе супроць новага вучэбнага пляну. Але гэта нічога.

Асаблівая ўвага, як камісіяй, так і Выканбюро ў цэлым, зьвяртаецца на організацыю летняй практыкі, якая ў мінулыя гады праходзіла эдавальняюча. Летняй практыцы ўдзяляецца ўвесь трэці трыместр з першага траўня па першае жніўня.

Практыка студэнтаў першага й другога курсаў праводзіцца ў фэрмах Інстытуту пад непасрэдным кіраўніцтвам акадэмічнага пэрсоналу, студэнты-ж III курсу едуць працаваць самастойна на агравучасткі і лясьніцтвы.

У мінулым годзе, у мэтах вывучэньня пастаноўкі справы вопытных і іншых навуковых устаноў СССР, была організавана экскурсія.

### Культурна-асьветная праца.

Культурна-асьветная праца, якая наладжваецца культаддзелам падзяляецца на дзьве галіны: на працу сярод студэнцтва ў Інстытуце і на працу ў гушчых.

### Праца ўнутры Інстытуту.

Уся праца сярод студэнцтва праводзіцца ў гурткох: сельска-гаспадарчым і лясным, Ленінскім, у гуртку фізкультуры, музычным, шахматна-шашачным, антырэлігійным, Ленінскім кутку і чытальні. Асяродкам усёй працы зьяўляецца чытальня. У чытальні праводзяцца гутаркі на грамадзянскія і бытавыя тэмы. Гутаркамі ўсе цікавяцца і на іх заўсёды прысутнічае каля 100 асоб. У чытальню кожны дзень ходзіць 130 асоб, калі браць у сярэднім. Тут ёсьць усе мясцовыя і цэнтральныя газэты і часопісі, а апрача гэтага выпісваюцца некаторыя газэты Украіны й Гомельшчыны.

У мінулым і ў гэтым годзе працуе ў Інстытуце сельска-гаспадарчы гурток, які налічвае да 200 асоб. Пры гуртку маецца жыдоўская сэкцыя, якая працуе з вялікім посьпехам.

Гэты гурток у сваёй працы мае на мэце глыбей распрацаваць пытаньні на розныя сельска-гаспадарчыя і грамадзянскія тэмы. Уся праца гуртка носіць краязнаўчы ўхіл. Вывучаецца экономічнае і культурна-бытавое становішча Беларусі.

Адноўлена працаляснога гуртка, якому аддаецца вялікая ўвага з боку студэнтаў. Вывучаюцца тут грунтоўныя пытаньні лясной гаспадаркі Беларусі. Поруч з гэтым вывучаюцца пытаньні землябудаўніцтва і інш.

Як у сельска-гаспадарчым, так і ў лясным гурткох прымаюць удзел у працы і профэсары Інстытуту.

Ленінскі гурток складаецца з 4-х груп, можна было-б організаваць і больш, бо жадаючых працаваць у гэтым гуртку студэнтаў вельмі многа, але за недахватам кіраўнікоў гэтага зрабіць немагчыма.

Ленінскі гурток мае вялікую сувязь з Ленінскім кутком, апрача таго ў Ленінскім гуртку праводзяцца перыодычныя гутаркі на тэмы: Ленін і сялянства, Ленін і вышэйшая школа і інш.

Добра працуе гурток фізкультуры і шахматна-шашачны.

Гурткі драматычны і музычны служаць больш для патрэбы шэфства, чым для самога Інстытуту.

Ужо другі год у Інстытуце выдаецца насьценная газэта „Чырвоны агроном“.

У Інстытуце існуюць ячэйкі Мопру, Дабрахіму і інш.

### Праца ў гушчах.

Апрача тэй працы ў гушчах, якая вядзецца профкомам, аб чым было гаворана вышэй, студэнцтва Ін—ту супольна з ячэйкамі „Пуці і Цягі“ ўзяло шэфства над Койданаўскім раёнам.

У 4-х пунктах раёну організаваны і працуюць сельска-гаспадарчыя гурткі. Гэтыя гурткі ўтвораны пры хатах-чытальнях і ячэйках комсамолу.

Заняткі ў гурткох праходзяць рэгулярна кожную нядзелю пад кіраўніцтвам студэнтаў, якія туды выяжджаюць.

Некалькі разоў прывозілі ў вёску „Волшебны фонарь“. Сялянства было дужа зацікаўлена апошнім.

У раён выпісваецца 5 нумароў „Зьвязды“, 7—„Савецкай Беларусі“, 7—„Маладога Аратага“ і 8—„Чырвонай Зьмены“. У вёску Дашына паслалі бібліотэчку лікам у 70 брошур, пераважна сельска-гаспадарчага характару.

Для большага посьпеху ў правядзеньні шэфскай працы, організавана Койданаўскае зямляцтва.

Апрача паказанай працы, студэнцтвам Ін-ту організаваны сельска-гаспадарчыя гурткі ў вучэбных фэрмах „Лошыца“ і „Прылукі“. Ува ўсіх гэтых мясцох наладжваюцца гутаркі й спэктаклі. Нядаўна профэсар Гайдукоў прачытаў лекцыю на прыродазнаўча-навуковую тэму ў народным доме м. Койданава.

Вялізная праца студэнцтвам у вёсках праводзіцца ў часе летняй практыкі. Гэтаму спрыяе яшчэ і тое, што студэнцтва ў гэты час знаходзіцца ў розных мясцох: лесаводы ў Прылуках, агрономы ў Лошыцы, старэйшыя курсы ў Сёмкаве і Племхозе імя Калініна.

Перад ад‘ездам на вакацыі для ўсіх студэнтаў робяцца даклады на тэмы дню. Некаторыя таварышы, калі ад‘яжджаюць на вакацыі, бяруць сельска-гаспадарчыя бібліотэчкі для распаўсюджваньня іх на вёсцы.

### Партыйнае і комсамольскае жыцьцё.

Да Кастрычніка 1923 году партыйнай ячэйкі ў Інстытуце ня было, і праца політычнага характару ўскладалася на ячэйку комсамолу, у якой было тады 17 таварышоў.

Ня гледзячы на тое, што ў першы год існаваньня Ін—ту працавала толькі адна комсамольская ячэйка, усё-такі зроблена шмат чаго.

Яшчэ шырэй разьвярнулася політычная праца, калі пачала існаваць партыйная ячэйка, у якой першы час было 4 сябры і 4 кандыдаты.

Лік партыйцаў і комсамольцаў быў невялікі, але праца, якая зроблена, як па пролетарызацыі Ін—ту, гэтак і па ўплыву на беспартыйнае студэнцтва—вялікая.

Зусім іншае цяпер. Партыйная ячэйка налічвае 8 сябраў і 11 кандыдатаў, а комсамольцаў 67. Хоць некаторыя актыўныя таварышы і перапоўнены працай, усё-ж яна вядзецца і ня дрэнна. Трэба сказаць, што партыйных сіл не хапае, але ўсё-ж партыйцы і комсамольцы спраўляюцца з перашкодамі і кіруюць жыцьцём Ін—ту.

Апрача таго, што дзьверы партыйных сходаў для пролетарскага студэнцтва адчынены, сябры ячэйкі кіруюць працай у Ленінскім гуртку. На сходах ячэйкі бывае шмат беспартыйных таварышоў. Комсамольскай ячэйкай наладжваюцца сходы моладзі Ін—ту комсамольскага ўзросту. Даклады ставяцца на тэмы па юнацкаму рэволюцыйнаму руху.

Цяжка абхапіць тут усе галіны працы ячэек, працы ўпартай, маруднай і бяскрайнай. Трэба сказаць толькі адно, што ўсё жыцьцё Ін—ту праходзіць пад уплывам партыйцаў і комсамольцаў. Партыя і Комсамол паслалі іх вучыцца, яны вучацца і вядуць вялікую організацыйную і грамадзянскую працу, як у самым Ін—це, так і за яго сьценамі.

### Уражаньні і пэрспэктывы.

Цяжкі пэрыод у жыцьці Беларускага Дзяржаўнага Ін—ту сельскай і лясной гаспадаркі—прайшоў. Шмат зроблена, як студэнцтвам так і профэсурай, асабліва ў організацыйны пэрыод. Няма ўжо больш думкі, што Ін—т можа разваліцца. Пытаньне аб асяродку Вышэйшай сельска-гаспа-

дарчай і лясной асьветы ў Беларусі разьвязана і якраз у бок Ін-ту. Ёсьць толькі адна думка, што Ін-т, у сілу свайго гэографічнага і этнографічнага становішча, які падтрымоўвае Савецкая ўлада і Комуністычная партыя, павінен быць і будзе чырвонай кузьняй для выхаваньня чырвоных агрономаў і лесаводаў, якія будуць абслугоўваць ня толькі Беларусь у цяперашніх яе межах, але і тую частку Беларусі, якая толькі часова знаходзіцца пад уціскам белапанскай Польшчы.

Пролетарскае студэнцтва Ін-ту, які носіць імя Кастрычнікавай Рэволюцыі, магутнай хваляй хутка хлыне па ўсіх кутках Беларусі ў выглядзе чырвоных спэцыялістаў; пачне безупынна змагацца з народнай цемрай і стыхіямі прыроды і замацоўваць справу начатую рабочай класаю і сялянствам у Кастрычнікаўскую Рэволюцыю.

---

# Студэнцтва на канікулах.

## (Беларускі Дзяржаўны Інстытут Сельскай Гаспадаркі).

Падрыхтоўка студэнцтва да працы ў вёсцы ў часе зімовых канікул пачалася сваечасова. Удалося правесьці перад ад'ездам цэлы цыкл дакладаў інструкцыйнага характэру па пытаньням палітычнага і гаспадарчага становішча.

У частковасьці была зьвернута ўвага на выкарыстаньне студэнцтва ў часе канікул на дасьледаваньне сельскае і лясной гаспадаркі на мясцох. З гэтай мэтаю сельска-гаспадарчыя і лясныя гурткі выдалі ўсім студэнтам адпаведныя анкеты і матар'ялы.

Апрача гэтага культаддзелам былі выдадзены студэнтам пуцёўкі—300 экзэмп. і брошуры „Спутник студента"—25 экз. Гэтых пуцёвак і брошур атрымалі толькі 90% студэнтаў, бо яны несваечасова былі дастаўлены у культурны аддзел.

Аб выніках працы, якую правяло студэнцтва ў часе канікул, зараз сказаць наагул трудна, бо ня ўсе яшчэ студэнты зьявіліся і з гэтай прычыны не дастаўлены ўсе пуцёўкі. Але паводле паданых пуцёвак можна сказаць, што працу, як у галіне гаспадарчай (дасьледаваньні, пропоганда), так і ў галіне палітычнай, студэнцтва выканала вялікую. Трапляюцца вельмі часта такія пуцёўкі, у якіх адмечана аб праведзенай працы ў 10-12 галінах.

Нарада, якая праводзілася ўсімі ад'яжджаўшымі студэнтамі на канікулы, паказала, што гэтае пытаньне (справаздачы) трэба правесьці ў шырокіх аўдыторыях, куды-б маглі прысьці і прадстаўнікі ўлады. З студэнцкіх справаздач аб працы ў часе канікул улада можа выкарыстаць многа чаго необходнага для далейшых мерапрыемстваў і працы ў вёсцы.

Усе матар'ялы, сабраныя студэнтамі ў галіне дасьледаваньня сельскай і лясной гаспадаркі, будуць падагулены, пераапрацаваны ў сельска-гаспадарчых гурткох і вынесены на шырокае абгаворваньне агульных сходаў студэнцтва.

---

**Наум Бімд.**

# У Партыйнай, Ленінскай.

(Вышэйшая партшкола імя *т. Леніна).**

### Колькі нас і хто мы гэткія.

Нас нямнога—108. Амаль-што ня ўсе партыйныя. Па партыйнаму стажу ёсьць усялякія: 21, 20, 19, 18, 17, і нават 13 г.

На практычнай працы да школы былі ўсе. Па кваліфікацыі яны розныя, ёсьць нават камандыраваныя палкамі.

Па соцыяльнаму становішчу склад школы пераважна сялянска-рабочы.

Пасьля трох месяцаў вучобы 64 курсанты адпраўлены на практычную працу на вёску, на 1½ месяцы. Ужо атрыманы ад іх першыя лісты. З лістоў відно й паказальна адно—хлопцы адразу схапілі быка за рогі; праца ім паказалася адразу блізкай і роднай. А галоўнае, што каштоўна—сяляне іх разумеюць. Яны на словах і дзеях бачаць шчырую прыхільнасьць справе будаўніцтва новай вёскі.

Значыць, Ленінскае выхаваньне родна і блізка працоўнаму сялянству.

І, значыць, не дарма наша школа названа імя Леніна і селянін падшэфнай вёскі меў права папытаць у мяне: „дзе гэта тут Ленінская вучылішча"?..

### Ленінізм—найважнейшы наш прадмет.

Вучэбная програма разьлічана на 3 гады, яна даволі грамоздкая. Больш як два месяцы заняткаў па „Дальтон-пляну" паказалі яго жыцьцёвасьць і прыгоднасьць. Вынікі трыместру ня дрэнныя. Першы курс выпаўніў заданьні.

Праўда, вучэбныя абставіны гэтаму спрыяюць; на лябараторных занятках прысутнічаюць выкладчыкі; не хапае толькі падручнікаў.

З усіх прадметаў вучобы самым жывым, зацікавіўшым курсантаў—гэта Ленінізм. Яму адведзена пачэснае месца. Шмат хто з курсантаў над ім працуе і ў па за школьныя часы.

У нас ёсьць выкладчык, які скончыў Сьвярдлоўскі Унівэрсытэт, добра вывучыў тэорыі Маркса і Леніна.

### Курсант па-за школай.

Цэлых 13 гадзін у нядзелю кожны курсант павінен ахвяраваць па-за школьнай працы. З гэтаю мэтай па-за школьная частка школы разьбіла курсантаў на групы адпаведна кваліфікацыі кожнага і гэтыя групы разьмеркавала па заводам, чырвонай арміі, вясковай працы („Дом селяніна" і інш.) і г. д., дзе яны і пачалі працаваць.

Школа зьяўляецца шэфам над 2-мя сельсаветамі, куды кожную нядзелю выяжджаюць нашы таварышы.

Так мы жывём, вучымся і працуем.

# ПА МАСКОЎСКАМУ ЗЯМЛЯЦТВУ.

І. Асмалоўскі.

## У Землябудаўнічым Тэхнікуме імя М. І. Калініна.

У Маскве, у чырвонай сталіцы Саюзу С.С.Р., ёсьць мала каму вядомы Землябудаўнічы тэхнікум імя *М. І. Калініна.*

Гэты тэхнікум памалу пачынае ажываць. У прошлым годзе загадчыкам тэхнікуму быў назначаны сябра колегіі Наркамзему тав. Сядзельнікаў—баец старай комуністычнай гвардыі.

У сучасны момант баявым заданьнем землябудаўнічага тэхнікуму зьяўляецца стаўка на ўзорнасьць. Вырашана пытаньне наконт ператварэньня тэхнікуму ў комуністычны чырвоны рассаднік землябудаўнікоў.

Заданьнем тэхнікуму зьяўляецца падрыхтоўка новага кадру чырвоных землябудаўнікоў для ўсяго Саюзу ССР, бо вёска балюча адчувае адсутнасьць патрэбных працаўнікоў.

Гэта задача вельмі цяжкая, але будзе выканана.

Усяго ў тэхнікуме беларусоў каля 42-х чалавек. Нядаўна, у лістападзе месяцы, па ініцыятыве некалькіх чалавек організавалася зямляцтва. Беларусы на 97%—сыны бедных сялян. З студэнтаў беларусоў адзін кандыдат РКП, пяць сяброў РЛКСМ., адначасова яны зьяўляюцца і сябрамі профсаюзу. Астатнія студэнты беспартыйныя. Усе студэнты прымаюць актыўны удзел у савецкай працы.

Большасьць студэнтаў—беларусоў выхадцы з Калінінскай акругі. Ёсьць з Магілёўскай, Горацкай, Аршанскай акругаў.

### Як ідзе вучоба.

Нашы студэнты добра ведаюць, што іх паслалі сюды вучыцца працоўныя масы Беларусі й яны, як кажуць, грызуць зубамі граніт навукі

„Вучыцца—наш час!“—кажуць студэнты, поручыся ў кнігах, каб запоўніць тыя прабелы, якія ёсьць у кожнага.

Ні аднэй свабоднай хвіліны няма затым, што наша задача—падрыхтаваць сябе да грамадзянскай працы ў цёмнай, мала-культурнай вёсцы, якая даўно чакае нас.

Кожны студэнт ведае, што зараз на мясцох сялянства пытаецца вельмі шмат аб чым. Нашы студэнты ня толькі закапваюцца ў акадэмічную працу, але й прымаюць актыўны ўдзел ува ўсіх гурткох і ўва ўсім жыцьці тэхнікуму.

Усё гэта гаворыць за тое, што праз год альбо два наша Савецкая Беларусь будзе мець хоць малы, але моцны кадр надзейных чырвоных землябудаўнікоў.

Матар'яльныя ўмовы жыцьця студэнтаў Землябудаўнічага тэхнікуму вельмі цяжкія.

---

Ф. А. К.

# У 2-гім Маскоўскім Дзяржаўн. Унівэрсытэце.

Зямляцтва ў нас заснавалася ў кастрычніку мінулага году. Спачатку было абрана бюро, якому і даручылі працу па афармленьню зямляцтва. Але організацыя зямляцтва зацягнулася.

Вялікая частка студэнтаў (каля 70%) стаіць яшчэ ў баку ад організацыі зямляцтва. Праўда, трэба сказаць, што прычынаю гэтаму зьяўляецца перагрузка грамадзянскаю і акадэмічнаю працаю студэнцтва. Апрача гэтага кепскае матар'яльнае становішча.

Аднэй з галоўных задач зямляцтва зьяўляецца задача—вывучыць сваю родную мову. Але ў гэтай справе перашкаджае нам адсутнасьць памяшканьня.

Цэнтральнаму бюро зямляцтва трэба як найхутчэй організаваць свой клюб, дзе-б можна было весьці працу ўсяму зямляцтву ўсіх ВУЗаў г. Масквы.

Навіцкі Ф.

# Маскоўскі Інстытут Інжынэраў Транспорту.

Зямляцтва пры Маскоўскім Інстытуце Інжынэраў Транспорту існуе трэці год. Пасьля перарэгістрацыі зямляцтва налічвае каля 35 чал. У прошлым годзе рабіліся што нядзельныя сходы, на якіх вывучвалася гісторыя Беларускага краю, экономіка й прамысловасьць Беларусі.

У гэтым годзе пачаліся рэгулярныя (раз у тыдзень) заняткі па вывучэньню беларускае мовы. Присутнічае на занятках 25-30 асоб, але ў гэту работу гуртка будуць уцягнены ўсе сябры зямляцтва, бо па пастанове бюро вывучэньне беларускае мовы зьяўляецца абавязковым дзеля ўсіх сяброў зямляцтва. Затым вельмі цікавую й карысную працу вядзе дасьледчы гурток. Гэты гурток вывучвае беларускі край, яго экономічнае становішча, прамысловасьць і шляхі зносін.

Студэнты трэцяга курсу працуюць над заданьнямі па шляхом зносін і мастом, прыстасоўваюць іх да Беларусі. А студэнты чацьвертага курсу—сябры зямляцтва—бяруць дыплёмныя проэкты, якія дапасованы да Беларускага краю.

Зараз зямляцтва распачало зьбіраньне часопісяй і кніг дзеля высылкі на вёску.

П. Ш.

## Москоўскі Пэдагогічны Інстытут.

Спыненая на лета праца зямляцтва, цяпер у новым вучэбным годзе распачалася з новай сілай і энэргіяй.

Зямляцтва пачало засноўвацца яшчэ раней, але жаданай працы да пачатку заняткаў у ім ня было відаць. За тое цяпер ужо праца йдзе хутка наперад.

Як усе зьехаліся на вучобу, быў скліканы сход. На гэтым сходзе быў вылучан прадстаўнік зямляцтва, апрацованы плян працы, пастаноўлена організаваць гурткі беларусазнаўства і краязнаўства, каб лепш падрыхтавацца і, зьвярнуўшыся ў вёску, аддаць свае веды сялянам на сваёй роднай мове.

Гурткі зараз ёсьць, выдзелена організацыйнае бюро, якое й загадвае ўсёй працай. Каб лепш шла праца ў беларусазнаўчым гуртку, мы заклікалі да сабе кіраўніка з Ц. Б. Б. З. Ён таксама ёсьць студэнт з унівэрсытэту нардаў захаду і шчыра ўзяўся за сваю працу. Зьбіраемся на заняткі ў нядзелю. Кіраўнік сваю справу разумее й паставіў яе добра.

Другі гурток у хуткім часе павінен пачаць сваю працу.

## АДКАЗЫ АЎТОРАМ.

**Б. Мушкацін.** Ня пойдзе. Нічога новага.

**Лапіцкаму.** „Шэфства“ напісана так, што не зразумець аб чым тут гаворыцца. Пішэце жывою мовай.

**Я. Л-ч.** Артыкул ваш вельмі даўгі. Ня пойдзе.

**Майсеенка Ф. П.** Ня пойдзе.

**М. К.** „Аб'яднаньне сіл“—ня пойдзе. Пытаньне закранутае вамі не сваечасова і ня мае пільнае патрэбы.

**Крывадубскаму.** „Чаму трэба быць сябрам зямляцтва“—ня пойдзе. Вельмі ўжо павучонаму вы пішаце. Пішэце больш зразумела і ясьней.

**Навіцкаму.** Вашы артыкулы „Вывучайце беларускаю мову“ і „Бліжэйшыя задачы“ падыходзяць больш для газэты, чым для часопісі.

**Усім іншым нашым дапісчыкам.**

Матар'ялы, прысланыя вамі, будуць скарыстаны ў чарговым нумары.

---

# Зьмест

*Стар.*

1. Ад рэдакцыі . . . . . . . . . 3
2. **А. Крыніцкі.** Задачы студэнцтва Беларусі . . . . . 5

**ПОЛІТЫКА І ЭКОНОМІКА.**

1. **А. Чарвякоў.** Шостая гадавіна Савецкае Беларусі . . . 10
2. **В. Нодаль.** Да ацэнкі міжнароднага становішча . . . 15
3. **В.** Закончаны этап (Да падагуленьня Настаўніцкага Зьезду) . 19

**ЛІТАРАТУРА.**

1. **М. Чарот.** Беларусь лапцюжная . . . . . . . 22

**КРАЯЗНАЎСТВА.**

1. **Іл. Барашка.** Краязнаўчы рух на Беларусі і студэнцтва . . 31
2. Паводле матар'ялаў Усебеларускай Краязнаўчай конфэрэнцыі .

**СТУДЭНЦКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.**

1. **Леўкоў.** Да Ўсебеларускай конфэрэнцыі пролетарскага студэнцтва 37
2. **П. Пінчук.** Якога агронома мы павінны даць вёсцы . . 38
3. **С—ты Гайдукевіч і Мяцельскі.** Як падрыхтоўваюцца камандыры вёскі . , . . . . . , . . . 40
4. **М. Варфман.** У Выканаўчым бюро профсэкцыі Б. Д. У . . 43
5. **Г. Бондар.** Кузьня чырвоных агрономаў і лесаводаў . . . 51
6. Студэнцтва на канікулах . . . . . . . 58
7. **Наум Бінд.** У Партыйнай Ленінскай . . . . . . 59

**ПА МАСКОЎСКАМУ ЗЯМЛЯЦТВУ.**

1. **І. Асмалоўскі.** У землябудаўнічым Тэхнікуме імя М. І. Калініна . 60
2. **Ф. А. К** У 2-гім Маскоўскім Дзяржаўным Унівэрсытэце . . 61
3. **Ф. Навіцкі.** Маскоўскі Інстытут Інжынэраў Транспарту . . 61
4. **П. Ш.** Маскоўскі Пэдагогічны Інстытут . . . . . . 62

Заўважаныя памылкі ў друку.

На ст. 3 у трэцім радку надрукавана: *пад разьвіцьцём.* Трэба чытаць: *над разьвіцьцём* На ст. 5 у 11-ым радку надрукавана: *„хто каго“*. Трэба чытаць:—*хто каго*“. На ст. 17 у 10-ым радку надрукавана: *а ў Кітаі—32*. Трэба чытаць:—*132*.


**Выданьне: Дзярж. Выд. Беларусі.** Адказны рэдактар: **А. Крыніцкі.**